ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 87 (1621) | Пятніца, 3 лістапада 1961 года | Цана 4 кап.

## На XXII з'ездзе КПСС

**30 кастрычніка ў Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, працягваў работу чарговы XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**На ранішнім пасяджэнні з заявамі ад імя дэлегацый выступілі таварышы: І. В. Спірыдонаў — Ленінградская абласная партарганізацыя, П. Н. Дзёмічаў — Маскоўская гарадская партарганізацыя, Г. Д. Джавахішвілі — Кампартыя Грузіі, Д. А. Лазуркіна — член КПСС з 1902 года, М. В. Падгорны — Кампартыя Украіны. Выказваючы думку партыйных арганізацый і шырокіх мас працоўных, выступаўшыя гаварылі аб несумяшчальнасці далейшага захавання ў Маўзалеі Уладзіміра Ільіча Леніна саркафага з трунай І. В. Сталіна, паколькі Сталіным былі допушчаны парушэнні ленінскіх запаветаў, злоўжыванне ўладай, масавыя рэпрэсіі супраць сумленных савецкіх людзей.**

**З'езд аднадушна прымае рашэнне аб Маўзалеі Уладзіміра Ільіча Леніна.**

**Затым з'езд пераходзіць да абмеркавання даклада аб зменах у Статуце КПСС. На пасяджэнні выступілі таварышы: А. В. Георгіеў — першы сакратар Алтайскага крайкома КПСС, Н. Н. Радзіёнаў — другі сакратар ЦК Кампартыі Казахстана, А. І. Шыбаеў — першы сакратар Саратаўскага абкома КПСС, П. А. Лявонаў — першы сакратар Сахалінскага абкома КПСС, З. Т. Сярдзюк — першы намеснік старшыні Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС, Ю. М. Вечарова — ткачыха Савінскай фабрыкі «Салідарнасць» (Іванаўская партарганізацыя), Ф. С. Гарачоў — першы сакратар Новасібірскага абкома КПСС, С. Н. Шчацілін — першы сакратар Іркуцкага абкома КПСС, В. І. Губанаў — сакратар парткома калгаса «Перамога» Чырвонагвардзейскага раёна (Стаўрапальская партарганізацыя), В. А. Кочатаў — пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Октябрь».**

**З'езд прымае рашэнне аб спыненні спрэчак па дакладу тав. Ф. Р. Казлова аб зменах у Статуце КПСС.**

**З'езд утварыў камісію па разгляду папраўак і дапаўненняў да праекта Статута КПСС.**

**З'езд даручыў Цэнтральнаму Камітэту КПСС разгледзець усе апеляцыі на рашэнні аб выключэнні з членаў партыі, накладанні партыйных спагнанняў і па іншых персанальных справах, якія паступілі на імя з'езда.**

**У адрас з'езда атрымана прывітанне ад Нацыянальнага савета партыі народнага яднання Гаіці.**

**На вячэрнім пасяджэнні з'езд распачаў разгляд наступнага пункта парадку дня — выбары цэнтральных органаў партыі.**

**31 кастрычніка на ранішнім пасяджэнні з'езд заслухаў паведамленне старшыні падліковай камісіі тав. Дзёмічава П. Н. аб выніках выбараў цэнтральных органаў партыі.**

**Дэлегаты з'езда бурнымі, працяглымі апладысментамі сустракаюць паведамленне аб аднадушным выбранні членаў Цэнтральнага Камітэта КПСС, кандыдатаў у члены ЦК, членаў Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі.**

**Таварыш М. С. Хрушчоў адзначае, што аднадушнае галасаванне пры выбарах цэнтральных органаў партыі яшчэ раз сведчыць аб адзінстве і маналітнай згуртаванасці нашай ленінскай партыі. Ён ад імя выбраных таварышаў дзякуе дэлегатам з'езда за высокае давер'е.**

**На вячэрнім пасяджэнні з'езда старшынствуючы таварыш М. С. Хрушчоў паведамляе аб тым, што Пленум Цэнтральнага Камітэта, які адбыўся, выбраў Прэзідыум ЦК, Сакратарыят ЦК, зацвердзіў старшыню Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС і першага намесніка старшыні Камітэта партыйнага кантролю. Ён паведамляе таксама, што Цэнтральная Рэвізійная Камісія выбрала старшыню камісіі.**

**Прэзідыум ЦК зацвердзіў Бюро ЦК па РСФСР.**

**Пасля дакладаў камісій былі аднагалосна прыняты рэзалюцыя XXII з'езда па Справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС, Праграма КПСС і Статут КПСС.**

**З кароткай заключнай прамовай выступае таварыш М. С. Хрушчоў. Ён аб'яўляе XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза закрытым. Дэлегаты і госці з вялікім натхненнем выконваюць партыйны гімн «Інтэрнацыянал».**

## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ
### АБ ПЛЕНУМЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**31 кастрычніка 1961 года адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС, выбранага XXII з'ездам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Пленум выбраў ПРЭЗІДЫУМ ЦК КПСС у наступным саставе:**

**Члены Прэзідыума: таварышы Брэжнеў Л. І., Воранаў Г. І., Казлоў Ф. Р., Касыгін А. М., Куусінен О. В., Мікаян А. І., Падгорны М. В., Палянскі Д. С., Суслаў М. А., Хрушчоў М. С., Швернік М. М.**

**Кандыдаты ў члены Прэзідыума: таварышы Грышын В. В., Рашыдаў Ш. Р., Мазураў К. Т., Мжаванадзе В. П., Шчарбіцкі В. В.**

**Пленум выбраў САКРАТАРЫЯТ ЦК КПСС у наступным саставе: таварыш Хрушчоў М. С. — Першы сакратар ЦК КПСС, таварышы Казлоў Ф. Р., Дзёмічаў П. Н., Ільічоў Л. Ф., Куусінен О. В., Панамароў Б. М., Спірыдонаў І. В., Суслаў М. А., Шалепін А. М.**

**Пленум выбраў старшынёй КАМІТЭТА ПАРТЫЙНАГА КАНТРОЛЮ ПРЫ ЦК КПСС таварыша Шверніка М. М., першым намеснікам старшыні Камітэта партыйнага кантролю таварыша Сердзюка З. Ц.**

## Бюро ЦК КПСС па РСФСР

**Прэзідыум ЦК КПСС зацвердзіў Бюро ЦК КПСС па РСФСР у наступным саставе:**

**Таварыш Хрушчоў М. С.—старшыня.**

**Таварыш Воранаў Г. І. — першы намеснік старшыні, таварыш Ламака П. Ф. — намеснік старшыні.**

**Члены Бюро: таварышы Абрамаў Г. Г., Яфрэмаў Л. М., Кірыленка А. П., Арганаў М. М., Палянскі Д. С., Раманаў А. В., Чураеў В. М., Ясноў М. А.**

## У Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС

**31 кастрычніка 1961 года адбылося пасяджэнне Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Цэнтральная Рэвізійная Камісія выбрала старшынёй камісіі таварыша Мураўёву Н. А.**

## Прамова М. С. ХРУШЧОВА
### пры закрыцці XXII з'езда КПСС

Дарагія таварышы!

Работа XXII з'езда завершана. Парадак дня вычарпан. З'езд прыняў Рэзалюцыю па Справаздачы Цэнтральнага Камітэта, прыняў новую Праграму партыі, Статут партыі, зацвердзіў Справаздачу Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі, выбраў кіруючыя органы партыі.

Можна з поўнай падставай сказаць, што XXII з'езд знамянуе важнейшы этап у жыцці нашай партыі і краіны, у барацьбе за перамогу камунізма. **(Бурныя апладысменты).**

Шлях барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства быў навукова абгрунтаваны вялікімі настаўнікамі рабочага класа Марксам, Энгельсам, Леніным. Наш бессмяротны правадыр Уладзімір Ільіч Ленін стварыў рэвалюцыйную партыю бальшавікоў, якая прывяла рабочы клас, працоўны народ да перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пасля Кастрычніка наша партыя пачала называцца Камуністычнай. І гэта азначала, што яе мэта — будаўніцтва камунізма. Камуністы, увесь працоўны народ цвёрда верылі Леніну, партыі. Але для многіх камунізм здаваўся тады марай, захапляючай, жаданай, але вельмі далёкай.

З таго часу мы прайшлі велізарны шлях. Савецкі народ пабудаваў сацыялізм, ажыццявіў грандыёзныя пераўтварэнні ў эканамічным, палітычным, дзяржаўным жыцці краіны і выйшаў на шырокую дарогу камуністычнага будаўніцтва.

Прыняўшы новую Праграму, XXII з'езд перад усім светам абвясціў, што народы Савецкага Саюза на чале з Камуністычнай партыяй, кіруючыся вучэннем марксізма-ленінізма, высока ўзнімаюць сцяг барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства ў нашай краіне. Пабудова камуністычнага грамадства стала практычнай задачай партыі і народа. **(Апладысменты).**

Для ўсталявання камунізма патрэбна трывалая матэрыяльная база і багацце матэрыяльных і духоўных даброт. А гэтага нельга дасягнуць заклінаннямі і заклікамі. Камунізм можна пабудаваць працай, працай і толькі працай мільёнаў. **(Працяглыя апладысменты).**

Таварышы! У адрас з'езда паступілі дзесяткі тысяч тэлеграм і пісьмаў з цёплымі прывітаннямі і пажаданнямі плённай работы з'езду партыі. Паступіла звыш дзесяці тысяч рапартаў ад калектываў рабочых, калгаснікаў, рабочых саўгасаў, работнікаў навукі, культуры і мастацтва аб выкананні абавязацельстваў, узятых у гонар XXII з'езда партыі.

Дазвольце ад імя дэлегатаў з'езда выказаць сардэчную падзяку ўсім калектывам, усім таварышам, якія прыслалі прывітанні XXII з'езду, і пажадаць ім новых вялікіх поспехаў у працы. **(Бурныя апладысменты).**

Ад імя дэлегатаў з'езда, ад імя ўсёй нашай партыі і савецкага народа дазвольце яшчэ раз выказаць гарачую падзяку брацкім марксісцка-ленінскім партыям за ўдзел у рабоце з'езда, за іх добрыя пажаданні. **(Працяглыя апладысменты).** Мы запэўніваем сяброў, што ленінская партыя і ў далейшым будзе высока несці сцяг камунізма, сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму. **(Працяглыя апладысменты).**

Сардэчна дзякуем прадстаўнікам дэмакратычных нацыянальных партый незалежных дзяржаў Афрыкі за іх цёплыя прывітанні ў адрас нашага з'езда. **(Бурныя апладысменты).** Мы падтрымлівалі і будзем падтрымліваць барацьбу народаў за сваю свабоду і незалежнасць, супраць каланіяльнага рабства. **(Бурныя апладысменты).**

Мы будзем умацоўваць дружбу паміж усімі народамі, няўхільна ажыццяўляць ленінскі прынцып мірнага суіснавання, змагацца за мір ва ўсім свеце. **(Бурныя апладысменты).**

Узброены новай Праграмай, наш народ яшчэ больш згуртуе свае рады вакол партыі, пад сцягам марксізма-ленінізма. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Нашы мэты ясныя, задачы вызначаны.

За работу, таварышы! За новыя перамогі камунізма! **(Бурныя, працяглыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць).**

* * *

Дазвольце XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза аб'явіць закрытым! **(Бурная авацыя. Дэлегаты з'езда і госці з велізарным натхненнем спяваюць партыйны гімн «Інтэрнацыянал». Пасля выканання гімна авацыя ўспыхвае з новай сілай і працягваецца некалькі мінут. З усіх канцоў залы нясуцца прывітальныя воклічы: «XXII з'езду КПСС — ура!», «Ленінскай партыі — слава!», «Няхай жыве ленінская Праграма партыі. Ура!», «Брацкім марксісцка-ленінскім партыям — ура!», «Сацыялістычнаму лагеру — ура!», «Няхай жыве ленінскі Цэнтральны Камітэт! Ура!», «Савецкаму народу — ура!», «Віва Куба!». Зала скандуе: «Ленінізм-камунізм!», «Ленінізм-камунізм. Ура!», «Дружба народаў!», «Дружба народаў!», «Мір!», «Ура!»).**

Таварыш Хрушчоў абвяшчае:

— Брацкім марксісцка-ленінскім партыям, ура!

І зноў грыміць авацыя, нясуцца прывітальныя воклічы ў гонар міжнароднага камуністычнага і рабочага руху, у гонар марксізма-ленінізма.

— Няхай жывуць народы, якія змагаюцца за сваю свабоду і незалежнасць, супраць прыгнёту каланіялізму і імперыялізму! Ура!

Тысячы дэлегатаў і гасцей з'езда горача вітаюць прадстаўнікоў народаў Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, якія змагаюцца за сваю свабоду і незалежнасць.

Замежныя госці абвяшчаюць здравіцы ў гонар Савецкага Саюза, у гонар вялікай партыі Леніна, у гонар адзінства і братства народаў у іх барацьбе за мір і светлую будучыню.

Магутнай і хвалюючай была дэманстрацыя адзінства і згуртаванасці вялікай ленінскай партыі, яе гатоўнасці ажыццявіць сваю новую Праграму — праграму пабудовы камунізма.

## ПАСТАНОВА XXII з'езда КПСС
### Аб Маўзалеі Уладзіміра Ільіча Леніна

**XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

**1. Маўзалей на Краснай плошчы ля Крамлёўскай сцяны, створаны для ўвекавечання памяці УЛАДЗІМІРА ІЛЬІЧА ЛЕНІНА — бессмяротнага заснавальніка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, правадыра і настаўніка працоўных усяго свету, называць у далейшым:**

**МАЎЗАЛЕЙ УЛАДЗІМІРА ІЛЬІЧА ЛЕНІНА.**

**2. Прызнаць немэтазгодным далейшае захоўванне ў Маўзалеі саркафага з трунай І. В. Сталіна, таму што сур'ёзныя парушэнні Сталіным ленінскіх запаветаў, злоўжыванні ўладай, масавыя рэпрэсіі супраць сумленных савецкіх людзей і іншыя дзеянні ў перыяд культу асобы робяць немагчымым пакіданне труны з яго целам у Маўзалеі У. І. Леніна.**

## ВЯЛІКАЕ АДЗІНСТВА

Па ўсёй нашай неабсяжнай краіне, ва ўсіх яе кутках праходзяць мнагалюдныя мітынгі, на якіх працоўныя аднадушна падтрымліваюць, горача ўхваляюць ленінскую палітыку Камуністычнай партыі як у галіне ўнутранага жыцця, так і па міжнародных пытаннях.

З вялікім уздымам прайшоў мітынг шахцёраў і будаўнікоў новага ў рэспубліцы горада Салігорска.

Думку ўсіх шахцёраў трапна выказаў майстар горна-праходчага камбайна ўдарнік камуністычнай працы Міхась Пінчук:

— Камунізм будзе пабудаваны нашымі працавітымі рукамі. Мы будзем і надалей сваёй працай множыць багацці нашай Радзімы, умацоўваць яе магутнасць, будзем і далей непрымірыма ставіцца да ўсіх, хто сыходзіць з ленінскага шляху.

Вальцоўшчык лістапракатнага цэха Магілёўскага металічнага завода тав. Ляонцьеў на мітынгу свайго калектыву сказаў:

— Новая Праграма, прынятая на XXII з'ездзе КПСС, вызначае шляхі далейшага руху да прамяністага заўтра — да камунізма. Мы будзем змагацца за тое, каб гэтая велічная праграма была выканана, каб усе савецкія людзі жылі шчасліва і радасна.

Калгаснае сялянства рэспублікі дамаглося ў гэтым годзе значных поспехаў. Вырашчаны багаты ўраджай кукурузы, павысіліся надоі малака, калгасныя сады даюць шмат яблыкаў, сліў, груш. Гэта ўсё для савецкага чалавека.

Брыгадзір калгаса «Радзіма» Воранаўскага раёна Альфрэд Пільдзіс гаварыў на мітынгу, прысвечаным завяршэнню работы XXII з'езда роднай партыі:

— Перад намі адкрыты велізарныя перспектывы. Наша сельская гаспадарка будзе набіраць далейшы разгон.

А даярка калгаса «Парыжская камуна» Пружанскага раёна тав. Лук'яновіч з хваляваннем сказала:

— У рашэннях XXII з'езда нашай партыі адлюстраваны думкі і спадзяванні савецкіх людзей. У нас цяпер адно імкненне, адно жаданне — хутчэй ажыццявіць велічную праграму будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Шматлюдным быў мітынг на Мінскім электратэхнічным заводзе.

— Дух займае ад новых планаў і перспектыў, — сказаў майстар завода тав. Кадушын. — Гэта наша краіна першай у свеце пабудуе камуністычнае грамадства, аб якім марылі лепшыя людзі нашай планеты. Цяпер гэтую мару будуць ажыццяўляць савецкія людзі пад кіраўніцтвам нашай партыі і яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта. Абурэнне і гнеў выклікаюць фракцыянеры, якія спрабавалі звярнуць нашу партыю з ленінскага шляху. Не выйшла! Мы заўсёды былі верныя запаветам роднага Ільіча і з гэтай дарогі ніколі не сыйдзем.

Кіраўнік брыгады камуністычнай працы Нафтабуда тав. Уласевіч адзначыў, што на XXII з'ездзе нашай партыі былі раскрыты злачынствы, парушэнні сацыялістычнай законнасці ў перыяд культу асобы. Мы, сказаў тав. Уласевіч, падтрымліваем пастанову з'езда, у якой прызнана немэтазгодным далейшае знаходжанне саркафага з целам Сталіна ў Маўзалеі Уладзіміра Ільіча Леніна.

Справы партыі — справы народа. І гэтае яднанне і адзінства партыі і народа савецкія людзі аднадушна выказваюць на сваіх мітынгах, сходах.

## З ПАРТЫЯЙ НАШЫ СЭРЦЫ

Разам з усімі савецкімі людзьмі беларускія пісьменнікі з вялікай радасцю і гордасцю за сваю Радзіму, партыю і яе ленінскі Цэнтральны Камітэт сустрэлі гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС.

Адбыўся мітынг пісьменнікаў рэспублікі.

Мітынг адкрыў намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін.

— XXII з'езд КПСС, — сказаў ён, — увойдзе ў гісторыю як падзея найвялікшага гістарычнага значэння. Новая Праграма партыі — Камуністычны маніфест нашай эпохі, быццам гіганцкі маяк, асвятляе савецкім людзям, усім народам зямлі шлях да самай светлай будучыні чалавецтва. Мы, пісьменнікі Беларусі, аднадушна падтрымліваем і адабраем даклады М. С. Хрушчова, рашэнні з'езда і, у прыватнасці, пастанову аб немэтазгоднасці далейшага захавання ў Маўзалеі саркафага з трунай І. В. Сталіна, рашуча асуджаем злачынную дзейнасць фракцыянераў-адшчапенцаў Молатава, Кагановіча, Малянкова і іншых. Мы, савецкія людзі, якія на сабе адчулі ўвесь цяжар рэпрэсій у перыяд культу асобы Сталіна, пратэстуем супраць палітыкі кіраўнікоў Албанскай партыі працы, якія імкнуцца ўкараняць ганебныя метады кіраўніцтва, твораць беззаконнасць і самавольства ў сваёй краіне.

Затым выступіў сакратар партбюро пісьменніцкай арганізацыі І. Грамовіч.

— Ажыццяўленне грандыёзных планаў камуністычнага будаўніцтва, — сказаў ён, — непазнавальна зменіць аблічча краіны, нашай рэспублікі. Натхнёныя даклады М. С. Хрушчова, прасякнутыя ідэямі і духам ленінізма, прагучалі як велічны гімн камунізму. Партыя, народ з вялікім задавальненнем успрынялі ўсе рашэнні з'езда, аб якіх нельга гаварыць без сапраўднага хвалявання. Наша пісьменніцкая арганізацыя цалкам і поўнасцю адабрае ўнутраную і знешнюю палітыку Камуністычнай партыі і ўрада, гнеўна асуджае агідную антыпартыйную групу авантурыстаў-палітыканаў, якія спрабавалі звярнуць краіну з ленінскага шляху. Яны, безумоўна, не вартыя насіць высокае званне камуніста.

На мітынгу выступілі Р. Кобец, П. Пестрак, А. Міронаў, С. Майхровіч, М. Татур, М. Аляксееў, А. Адамовіч, Р. Сабаленка. Ва ўсхваляваных прамовах яны горача віталі гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС, гаварылі аб сваім імкненні працаваць яшчэ лепш, з патроенай энергіяй, каб з гонарам апраўдаць высокае званне памочнікаў партыі. Прамоўцы з гневам і абурэннем кляймілі антыпартыйную групу агідных фракцыянераў Молатава, Малянкова, Кагановіча і іншых. Пісьменніцкая арганізацыя Беларусі панесла ў часы масавых рэпрэсій вялікія страты, загінулі многія сумленныя людзі, таленавітыя пісьменнікі. Усе прамоўцы рашуча патрабавалі выключэння з партыі Молатава, Кагановіча, Малянкова і прыцягнення іх да суровай адказнасці.

Усім сэрцам ухвалялі пісьменнікі пастанову XXII з'езда КПСС «Аб Маўзалеі Уладзіміра Ільіча Леніна». Нельга, гаварылі яны, каб побач з самым чалавечным чалавекам знаходзілася труна з целам таго, хто парушыў ленінскія запаветы, хто вінаваты ў знішчэнні лепшых людзей партыі і народа. Удзельнікі мітынга прапанавалі зняць помнік-манумент Сталіна на Цэнтральнай плошчы Мінска, а таксама даць новую назву галоўнай магістралі горада. Былі ўнесены прапановы ўшанаваць светлую памяць бязвінна загінуўшых і пасмяротна рэабілітаваных кіраўнікоў партыі і ўрада Беларусі і выдатных пісьменнікаў рэспублікі.

У аднадушна прынятай рэзалюцыі ўдзельнікі мітынга запэўнілі родную Камуністычную партыю ў сваёй непахіснай адданасці ідэям марксізма-ленінізма, у гатоўнасці аддаць усе свае сілы, энергію і талент вялікай справе будаўніцтва камунізма.

**У знамянальныя дні работы XXII з'езда КПСС салігорцы рапартавалі аб новых працоўных поспехах. Тут пачалося будаўніцтва другога калійнага камбіната, пуск доследна-ўзбагачальнай фабрыкі. Калійнікі выдалі на-гара звыш задання сотні тон сільвініту. У сацыялістычным спаборніцтве лепшай сярод будаўнічых брыгад будтрэста № 3 з'яўляецца комплексная брыгада, якой кіруе камуніст Радзівон Дубовік. Свае зменныя заданні будаўнікі, як правіла, перавыконваюць. Якасць работ выдатная. На нашым здымку (злева направа) вы бачыце членаў брыгады муляра Віктара Курціна, майстра Мікалая Крывульку, муляра Цімоха Тычыну, брыгадзіра Радзівона Дубовіка.**

**Фота П. БАРОДКІ.**

## Будучыня кліча

На XXII з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза прысутнічала 4 799 дэлегатаў. Але мне здаецца, што новы Крамлёўскі Палац савецкія людзі збудавалі так, што ён здолеў умясціць у сябе ўсіх тых, для каго ствараецца камуністычнае заўтра, хто змагаецца за яго.

Так, усе мы былі душою на з'ездзе. Хіба не перачытвалі мы старонак газет, яшчэ і яшчэ раз вывучаючы яго матэрыялы. Хіба не абмяркоўвалі разам з дэлегатамі грандыёзную Праграму нашай партыі?

Праект будынка камунізма ў нас перад вачыма, і мы прыступаем да яго ажыццяўлення. Мы бачым, як многа ў нас работы, як шмат прыйдзецца папрацаваць. І не толькі для таго, каб стварыць у Савецкім Саюзе самы высокі жыццёвы ўзровень у параўнанні з любой капіталістычнай краінай, але і для таго, каб выхаваць новага чалавека, чалавека камуністычнага светапогляду, камуністычнай маралі.

Камуністычнае грамадства ствараем мы самі, кожны на сваім, большым ці меншым, участку. Мы самі павінны выхоўваць і чалавека гэтага грамадства—выхоўваць яго кожны дзень, кожную хвіліну. Мы павінны павысіць патрабаванні да сябе—да кожнай сваёй справы, да кожнага свайго ўчынку. Мы павінны павысіць патрабаванні да ўсіх, хто жыве і працуе побач з намі.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у дакладзе на з'ездзе сказаў: «Ёсць людзі, якія няправільна, па-абывацельску ўяўляюць умовы жыцця пры камунізме. Яны ўспрымаюць толькі другую частку формулы: па патрэбнасцях, і разважаюць прыкладна так: «Пры камунізме хочаш—працуй, хочаш—вандруй з Далёкага Усходу на захад, з захаду на поўдзень, а атрымліваць будзеш усё роўна па патрэбнасцях. Адзінае, што яны рыхтуюць да камунізма,—гэта самую вялікую лыжку».

Мікіта Сяргеевіч глыбока расчараваў такіх людзей. Не, камунізм будзе не такім, якім яны яго сабе ўяўляюць. Пры камунізме, сказаў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў: «Кожны будзе разумець свой абавязак, укладваць сваю працу ў стварэнне як матэрыяльных, так і духоўных даброт. Усе савецкія людзі павінны працаваць так, каб, калі будзе пабудаваны светлы будынак камунізма, кожны мог сказаць: тут ёсць і мой уклад».

Людзі, якія ад камунізма чакаюць толькі задавальнення сваіх «высокіх» патрэб і менш за ўсё дбаюць пра абавязкі перад грамадствам, жывуць не дзе-небудзь асобнаю групаю. Разам з іншымі, сумленнымі працаўнікамі, яны, магчыма, раніцой ідуць на завод, на фабрыку, на калгаснае поле, у савецкую ўстанову. Але калі іншыя працуюць на поўную сілу, так, як іх абавязвае сумленне, то працоўная аддача гэтай невялікай групы людзей магла б быць намнога большай. І толькі, калі гаворка заходзіць аб узнагародзе за працу, яны сапраўды спяшаюцца з вялікімі лыжкамі.

А ці заўсёды знаходзяць патрэбны адпор у калектыве такія людзі? Часам некаторыя з яго членаў, тыя, што маюць поўнае маральнае права выступіць супраць такіх дармаедаў, адмоўчваюцца. Лічаць, што гэта іх не датычыць, што начальства павінна сачыць за тым, як хто працуе.

Трэба адкрыта сказаць, што такая філасофія, як і само ўхіленне ад працы, нічога агульнага не мае з псіхалогіяй чалавека будучыні, дзе адзін будзе адказваць за ўсіх і ўсе за аднаго.

Кожны савецкі чалавек павінен быць горача зацікаўлены тым, што адбываецца вакол яго, павінен актыўна рэагаваць на факты і падзеі, сведкам якіх з'яўляецца.

Хіба няма ў нас яшчэ бюракратаў, кар'ерыстаў, самадураў? А нам часам не хапае адвагі з усёй прынцыповасцю выступіць супраць гэтых з'яў і тым самым дапамагчы хутчэйшаму іх знішчэнню.

Сустракаемся мы і з фактамі п'янства, хуліганства, разбэшчанасці. А ці заўсёды кідаемся ў бой з гэтымі агіднымі праявамі?

Вакол людзей, якія перашкаджаюць нам жыць і працаваць, трэба стварыць атмасферу непрымірымасці. Трэба адкрыта крытыкаваць іх, перавыхоўваць.

Раўнадушнасць, абыякавасць да таго, што нас асабіста не датычыцца,—хіба не страшэнны гэта вораг, з якім мы павінны павесці самую бязлітасную барацьбу? На рабоце, на вуліцы, у тралейбусе, у магазіне—усюды савецкі чалавек павінен стаяць на варце справядлівасці, абараняць чалавечую годнасць і тым самым дапамагаць выхаванню такіх адносін паміж людзьмі, якія павінны быць у будучыні. Добразычлівасць, спагада, ветлівасць, бескарыслівая дапамога кожнаму, хто адчувае ў ёй патрэбу, далікатнасць, чуласць—усё гэта павінна зрабіцца здабыткам душы кожнага савецкага чалавека, які ўпэўнена ідзе ў камуністычнае заўтра.

**Лідзія АРАБЕЙ.**

## УСЕНАРОДНАЯ РАДАСЦЬ

З вялікай радасцю ўспрыняў увесь савецкі народ даклады таварыша М. С. Хрушчова, з якімі ён выступіў на XXII з'ездзе партыі, і самую цудоўную вестку аб прыняцці Праграмы КПСС — праграмы пабудовы ў нашай краіне камуністычнага грамадства. Вялікай любоўю да савецкага чалавека, клопатамі аб далейшых поспехах у развіцці народнай гаспадаркі краіны былі прасякнуты выступленні дэлегатаў і тады, калі яны абрушвалі свой справядлівы гнеў на ненавісную антыпартыйную групу фракцыянераў.

З'езд праходзіў у непарушным адзінстве, рашэнні з'езда натхняюць усіх савецкіх людзей, у тым ліку і нас, стваральнікаў культурных каштоўнасцей, на новыя творчыя поспехі.

У дні з'езда і ў папярэднія дні, калі праходзіла Дэкада сучаснага беларускага мастацтва, прагучалі новыя жыццесцвярджальныя творы беларускіх кампазітараў розных жанраў — ад оперы і балета, ад буйных сімфанічных твораў, уверцюр да хораў, песень і твораў для народнага аркестра. Тры нашы рэспубліканскія выканаўчыя калектывы былі ўдастоены гонару выступаць у канцэрце для дэлегатаў з'езда роднай партыі.

Прыемна ўсведамляць, што ў творчую дзейнасць Саюза кампазітараў, побач з прадстаўнікамі старэйшага пакалення, актыўна ўключыліся і маладыя аўтары, якія будуць жыць і тварыць пры камунізме.

**Я. ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР.**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## XXII З'ЕЗДА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА ПА СПРАВАЗДАЧЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС

XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза сабраўся ў той час, калі наша Радзіма ўступіла ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства, калі сацыялізм трывала ўсталяваўся ў краінах народнай дэмакратыі, адбываецца бурны рост сіл прагрэсу і міру ва ўсім свеце.

Гады, што мінулі пасля XX з'езда КПСС, мелі выключна важнае значэнне ў жыцці нашай партыі, савецкага народа, усяго чалавецтва. Партыя, ажыццяўляючы ленінскую генеральную лінію, мабілізавала ўсіх працоўных на выкананне задач камуністычнага будаўніцтва па ўсяму шырокаму фронту вялікіх работ. Буйной вяхой на шляху развіцця СССР да камунізма з'явіўся нечарговы XXI з'езд КПСС, які прыняў сямігадовы план развіцця народнай гаспадаркі.

З вялікім задавальненнем XXII з'езд КПСС падводзіць вынікі сусветна-гістарычных перамог савецкага народа. Краіна Саветаў прайшла шлях гераічнай барацьбы і знаходзіцца цяпер у поўным росквіце сваіх творчых сіл. Яшчэ больш умацавалася магутнасць Савецкага Саюза, нязмерна ўзрос яго міжнародны аўтарытэт, як змагара за справу міру і прагрэсу, за дружбу народаў, за шчасце чалавецтва.

Увесь ход падзей пацвердзіў правільнасць тэарэтычных вывадаў і палітычнай лініі нашай партыі. Поўнасцю перамог курс XX з'езда, які прадыктаваны самім жыццём, клопатам аб шчасці народа, прасякнут духам ленінскай рэвалюцыйнай творчасці.

**Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад Першага сакратара ЦК таварыша М. С. Хрушчова — Справаздачу Цэнтральнага Камітэта КПСС, XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза пастанаўляе:**

**Цалкам і поўнасцю адобрыць палітычны курс і практычную дзейнасць Цэнтральнага Камітэта КПСС у галіне ўнутранай і знешняй палітыкі. Адобрыць вывады і прапановы, выкладзеныя ў Справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС.**

XXII з'езд КПСС лічыць неабходным у далейшым:

— няўхільна і паслядоўна ажыццяўляць прынцыпы мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам, як генеральны курс знешняй палітыкі Савецкага Саюза;

— няспынна ўмацоўваць адзінства краін сацыялізма на аснове брацкага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі, уносіць свой уклад ва ўмацаванне магутнасці сусветнай сацыялістычнай сістэмы;

— развіваць і паглыбляць супрацоўніцтва з усімі сіламі, якія змагаюцца за мір ва ўсім свеце;

— умацоўваць пралетарскую салідарнасць з рабочым класам і працоўнымі ўсяго свету. Аказваць усямерную падтрымку народам, якія змагаюцца за сваё вызваленне ад імперыялістычнага і каланіяльнага прыгнёту, за ўмацаванне сваёй незалежнасці;

— яшчэ шырэй развіваць міжнародныя дзелавыя сувязі, узаемавыгадныя эканамічнае супрацоўніцтва і гандаль з усімі краінамі;

— весці актыўную і гібкую знешнюю палітыку, дабіваючыся ўрэгулявання наспеўшых сусветных праблем шляхам перагавораў, выкрываць падкопы і манеўры імперыялістычных падпальшчыкаў вайны, умацоўваць мір ва ўсім свеце.

## I.

XXII з'езд адзначае, што вызначальнай рысай сучаснага міжнароднага становішча з'яўляецца далейшы рост сіл сацыялізма, дэмакратыі і міру ва ўсім свеце. Жыццё пацвердзіла правільнасць знешнепалітычнага курсу нашай партыі, накіраванага на прадухіленне вайны і ўмацаванне міру. Гэты курс адпавядае карэнным інтарэсам савецкага народа і атрымаў падтрымку міралюбівых сіл ва ўсіх краінах. З'езд высока ацэньвае паслядоўнасць, гібкасць і ініцыятыўнасць знешняй палітыкі і поўнасцю адабрае меры, якія ажыццяўляюцца Цэнтральным Камітэтам і Савецкім урадам з мэтай узмацнення палітычных, эканамічных і культурных сувязей з усімі дзяржавамі.

Той факт, што вайну ўдалося прадухіліць і савецкія людзі, народы іншых краін маглі карыстацца даброт амі мірнага жыцця, трэба разглядаць як галоўны вынік дзейнасці партыі, яе Цэнтральнага Камітэта па нарошчванню магутнасці Савецкай дзяржавы, ажыццяўленню ленінскай знешняй палітыкі, як вынік дзейнасці брацкіх партый краін сацыялізма, актывізацыі міралюбівых сіл усіх краін.

Савецкі Саюз, Кітайская Народная Рэспубліка, усе краіны сусветнай сістэмы сацыялізма ўпэўнена ідуць па шляху будаўніцтва сацыялізма і камунізма. Абапіраючыся на сваю ўзрослую магутнасць, пры падтрымцы міралюбівых сіл ва ўсім свеце, сацыялістычныя краіны не дазволілі імперыялістам саштурхнуць свет з рэек мірнага эканамічнага спаборніцтва дзвюх сістэм на шлях усеагульнай сусветнай катастрофы. Мірнае спаборніцтва дзвюх процілеглых сацыяльных сістэм, якое з'яўляецца асновай сучаснага міжнароднага жыцця, уступіла ў рашаючую фазу. Палітыка дружбы і міру паміж народамі заваёўвае ўсё большае прызнанне і падтрымку, бярэ верх над імперыялістычнай палітыкай агрэсіі і вайны.

Сусветная сацыялістычная сістэма паспяхова развіваецца, мацнее і становіцца вызначальным фактарам прагрэсу чалавечага грамадства. Савецкі Саюз уступіў у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма; у большасці краін народнай дэмакратыі ліквідавана многаўкладнасць эканомікі і завяршаецца будаўніцтва сацыялізма; няўхільна расце жыццёвы ўзровень народаў; расшыраюцца брацкае супрацоўніцтва і ўзаемадапамога сацыялістычных дзяржаў. З'езд горача вітае выдатныя поспехі брацкіх партый і народаў сацыялістычных краін і жадае ім новых слаўных перамог.

XXII з'езд адабрае лінію Цэнтральнага Камітэта і Савецкага ўрада на няўхільнае ўмацаванне эканамічнага, палітычнага і культурнага супрацоўніцтва сацыялістычных дзяржаў, заснаванага на прынцыпах пралетарскага інтэрнацыяналізму, раўнапраўя і таварыскай узаемадапамогі. З'езд асабліва адзначае вялікую і плённую работу Цэнтральнага Камітэта па развіццю і ўмацаванню супрацоўніцтва паміж КПСС і брацкімі камуністычнымі і рабочымі партыямі на аснове марксізма-ленінізма, у інтарэсах адзінства і згуртаванасці міжнароднага камуністычнага руху. З'езд рашуча адхіляе, як неабгрунтаваныя і паклёпніцкія, нападкі кіраўнікоў Албанскай партыі працы на Камуністычную партыю Савецкага Саюза і яе ленінскі Цэнтральны Камітэт. Дзеянні албанскіх кіраўнікоў ідуць уразрэз з Дэкларацыяй і Заявай Нарад прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый у 1957 і 1960 гадах і не могуць быць ацэнены інакш, як раскольніцкія, якія накіраваны на падрыў дружбы і згуртаванасці сацыялістычных краін і іграюць на руку імперыялізму. З'езд выказвае надзею на тое, што албанскія кіраўнікі, калі яны даражаць інтарэсамі свайго народа і сапраўды хочуць дружбы з КПСС, з усімі брацкімі партыямі, адмовяцца ад сваіх памылковых поглядаў і вернуцца на шлях адзінства і супрацоўніцтва з усімі сацыялістычнымі краінамі, з міжнародным камуністычным рухам.

**Далейшае ўмацаванне адзінства сацыялістычнага лагера, павышэнне яго магутнасці і абараназдольнасці застаецца адной з самых важных задач.** Спалучэнне намаганняў па развіццю нацыянальнай гаспадаркі кожнай сацыялістычнай краіны з агульнымі намаганнямі па ўмацаванню і расшырэнню эканамічнага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі — такі шлях далейшага працвітання і ўздыму ўсіх краін сацыялістычнай садружнасці, сусветнай сацыялістычнай гаспадаркі.

Поспехі сацыялістычных краін робяць узрастаючае ўсебаковае ўздзеянне на народы несацыялістычных дзяржаў, рэвалюцыянізуючы і паскараючы развіццё ўсяго чалавецтва па шляху прагрэсу. **Цяпер не імперыялізм, а сацыялізм вызначае галоўны напрамак сусветнага развіцця.**

Поўнасцю пацвердзіўся вывад XX з'езда аб немінучасці паглыблення агульнага крызісу капіталізму. За мінулыя гады адбылося далейшае аслабленне эканамічных, палітычных і ідэалагічных пазіцый імперыялізму, яшчэ больш абвастрыліся яго асноўныя супярэчнасці, набылі велізарны размах рэвалюцыйная барацьба рабочага класа, дэмакратычны і нацыянальна-вызваленчы рух народаў. Капіталістычны лад усё больш дыскрэдытуе сябе ў вачах народаў, як лад жорсткай эксплуатацыі працоўных, нацыянальнага і каланіяльнага прыгнёту, гонкі ўзбраенняў і знішчальных войнаў.

**Пад магутнымі ўдарамі нацыянальна-вызваленчага руху фактычна развалілася каланіяльная сістэма.** Імперыялістычныя сілы, у першую чаргу амерыканскі імперыялізм — галоўная апора сусветнай рэакцыі і міжнародны жандар, імкнуцца захаваць свае пазіцыі, выкарыстоўваючы новыя, больш вытанчаныя формы каланіяльнага заняволення. Аднак гістарычны вопыт усё больш пераконвае народы былых калоній, што толькі канчатковае вызваленне ад усіх форм эканамічнай і палітычнай залежнасці, толькі некапіталістычны шлях развіцця можа прывесці іх краіны да сапраўднай свабоды, працвітання і шчасця.

Наперакор прароцтвам ідэолагаў імперыялізму, іх праваcацыялістычных і рэвізіяніcцкіх памагатых класавая барацьба ў капіталістычных краінах не затухае, а набывае ўсё большы размах, усё больш востры характар. Побач з рэвалюцыйнымі выступленнямі рабочага класа ўзмацняецца сялянскі, а таксама агульнадэмакратычны рух. Аб'яднанне ўсіх сіл, якія выступаюць супраць імперыялізму, рашучае перададоленне ідэалогіі і практыкі антыкамунізма і рэфармізму становяцца пільнай патрэбай.

Увесь ход грамадскага развіцця, няспыннае нарастанне сіл, якія выступаюць за сацыялізм, супраць імперыялізму, пацвярджаюць правільнасць вываду XX з'езда аб разнастайнасці форм пераходу краін да сацыялізма. Гэты вывад, падтрыманы міжнародным камуністычным рухам, знайшоў сваё ўвасабленне і развіццё ў Дэкларацыі 1957 года і Заяве 1960 года, прынятых на Нарадах марксісцка-ленінскіх партый.

Марксісцка-ленінскія партыі ўзначальваюць барацьбу рабочага класа і ўсіх працоўных сваіх краін за ажыццяўленне сацыялістычнай рэвалюцыі і ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту ў той ці іншай форме.

Формы і шляхі развіцця сацыялістычнай рэвалюцыі будуць залежаць ад канкрэтных суадносін класавых сіл у той ці іншай краіне, арганізаванасці і сталасці рабочага класа і яго авангарда, ад ступені супраціўлення пануючых класаў. Незалежна ад таго, у якіх формах будзе ўстаноўлена дыктатура пралетарыяту, яна заўсёды будзе азначаць расшырэнне дэмакратыі, пераход ад фармальнай, буржуазнай дэмакратыі да сапраўднай дэмакратыі, дэмакратыі для працоўных. Рабочы клас і яго авангард — марксісцка-ленінская партыя імкнуцца ажыццявіць сацыялістычную рэвалюцыю мірным спосабам. Ажыццяўленне гэтай магчымасці адпавядала б інтарэсам рабочага класа і ўсяго народа, агульнанацыянальным інтарэсам краіны.

У сучасных умовах у радзе капіталістычных краін рабочы клас на чале са сваім перадавым атрадам мае магчымасць на аснове рабочага і народнага фронту і іншых магчымых форм пагаднення і палітычнага супрацоўніцтва розных партый і грамадскіх арганізацый аб'яднаць большасць народа, заваяваць дзяржаўную ўладу без грамадзянскай вайны і забяспечыць пераход асноўных сродкаў вытворчасці ў рукі народа.

Абапіраючыся на большасць народа і даючы рашучы адпор апартуністычным элементам, не здольным адмовіцца ад палітыкі згодніцтва з капіталістамі і памешчыкамі, рабочы клас мае магчымасць нанесці паражэнне рэакцыйным, антынародным сілам, заваяваць трывалую большасць у парламенце, ператварыць парламент са сродку, які служыць класавым інтарэсам буржуазіі, у сродак, які служыць працоўнаму народу, разгортваць пазапарламенцкую шырокую масавую барацьбу, зламаць супраціўленне рэакцыйных сіл і стварыць неабходныя ўмовы для мірнага ажыццяўлення сацыялістычнай рэвалюцыі. Усё гэта будзе магчыма толькі шляхам шырокага, няспыннага развіцця класавай барацьбы рабочых, сялянскіх мас і сярэдніх гарадскіх слаёў супраць буйнога манапалістычнага капіталу, супраць рэакцыі, за глыбокія сацыяльныя рэформы, за мір і сацыялізм. Ва ўмовах, калі эксплуататарскія класы звяртаюцца да насілля над народам, неабходна мець на ўвазе другую магчымасць — нямірнага пераходу да сацыялізма. Ленінізм вучыць і гістарычны вопыт пацвярджае, што пануючыя класы добраахвотна ўлады не ўступаюць. Ступень жорсткасці і формы класавай барацьбы ў гэтых умовах будуць залежаць не столькі ад пралетарыяту, колькі ад сілы супраціўлення рэакцыйных колаў волі пераважнай большасці народа, ад ужывання насілля гэтымі коламі на тым ці іншым этапе барацьбы за сацыялізм.

Самай уплывовай палітычнай сілай нашага часу стаў камунізм. Цяпер ужо няма краіны з больш ці менш развітым рабочым, вызваленчым рухам, дзе не праяўлялся б уплыў камуністаў — самых паслядоўных, стойкіх і мужных змагароў за інтарэсы народаў. Велізарнае значэнне для далейшай кансалідацыі радоў міжнароднага камуністычнага руху мелі гістарычныя Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый 1957 і 1960 гадоў і выпрацаваныя гэтымі нарадамі дакументы. З'езд высока ацэньвае і поўнасцю адабрае дзейнасць дэлегацыі КПСС на Нарадах прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый.

Непрымірымая, паслядоўная барацьба на два фронты — супраць рэвізіянізму, як галоўнай небяспекі, і супраць дагматызму і сектанцтва — мае рашаючае значэнне для перамогі марксізма-ленінізма. КПСС бачыць свой інтэрнацыянальны абавязак у тым, каб усямерна ўмацоўваць маналітнасць міжнароднага камуністычнага руху, весці барацьбу з усімі, хто спрабуе аслабіць адзінства камуністаў усіх краін. Неабходна і ў далейшым выкрываць тэорыю і практыку сучаснага рэвізіянізму, які атрымаў найбольш канцэнтраванае выражэнне ў праграме Саюза камуністаў Югаславіі.

**Пытанне аб вайне і міры было і застаецца самым пільным пытаннем сучаснасці, якое хвалюе ўсё чалавецтва.**

Падзеі апошніх гадоў пацвердзілі правільнасць вываду XX і XXI з'ездаў аб тым, што ў сучасную эпоху войны паміж дзяржавамі не з'яўляюцца немінучымі, іх можна прадухіліць. У наш час магутныя сілы, якія стаяць на варце міру, маюць усе неабходныя сродкі для таго, каб утаймаваць імперыялістычных падпальшчыкаў вайны. Сусветная сістэма сацыялізма становіцца ўсё больш надзейным шчытом, які прыкрывае не толькі народы сацыялістычных краін, але і ўсё чалавецтва ад ваенных авантур імперыялізму. Усё больш узрастаючая магутнасць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін з'яўляецца важнай гарантыяй міру ва ўсім свеце.

Побач з сацыялістычнымі дзяржавамі за мір змагаюцца краіны Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, якія вызваліліся ад каланіяльнага прыгнёту; рабочы клас і ўсе працоўныя капіталістычных дзяржаў; расце рух прыхільнікаў міру ва ўсім свеце. Народ — рашаючая сіла ў барацьбе за мір. Чым вышэйшая магутнасць сацыялістычнага лагера, чым больш актыўна разгортваецца барацьба за мір у саміх капіталістычных краінах, тым цяжэй імперыялістам развязаць новую сусветную вайну. Барацьба краін сацыялізма і ўсіх міралюбівых сіл супраць падрыхтоўкі новай вайны складае галоўны змест сучаснай сусветнай палітыкі.

У выніку карэннага змянення суадносін сіл на сусветнай арэне на карысць сацыялізма палітыка мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам набыла яшчэ больш трывалую базу. Абвешчаныя У. І. Леніным прынцыпы мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам, якія з'яўляюцца асновай знешняй палітыкі Савецкага Саюза, знайшлі шырокае прызнанне, як шлях захавання міру і прадухілення новай сусветнай вайны. У сучасных умовах адкрылася перспектыва дабіцца мірнага суіснавання на ўвесь перыяд, на працягу якога павінны знайсці сваё вырашэнне сацыяльныя і палітычныя праблемы, якія цяпер падзяляюць чалавецтва. Справа ідзе да таго, што яшчэ да поўнай перамогі сацыялізма на зямлі, пры захаванні капіталізму ў частцы свету ўзнікне рэальная магчымасць выключыць сусветную вайну з жыцця грамадства.

Разам з тым трэба ўлічваць, што знешняя палітыка імперыялістычных дзяржаў вызначаецца класавымі інтарэсамі манапалістычнага капіталу, якому арганічна ўласцівыя агрэсія і вайна. Пакуль захоўваецца імперыялізм, будзе заставацца і глеба для агрэсіўных войнаў. Міжнародны імперыялізм, у першую чаргу амерыканскі, з'яўляецца галоўнай небяспекай для справы міру ва ўсім свеце. Ён рыхтуе самае страшэннае злачынства перад чалавецтвам — сусветную тэрмаядзерную вайну. Імперыялісты стварылі небяспечную сітуацыю ў цэнтры Еўропы, пагражаючы вайной у адказ на прапанову Савецкага Саюза і іншых міралюбівых краін скончыць з рэшткамі другой сусветнай вайны, заключыць германскі мірны дагавор і нармалізаваць становішча ў Заходнім Берліне. За апошнія гады сілы рэакцыі не раз пагражалі ўсеагульнаму міру і не спыняюць спроб абвастрыць міжнародную абстаноўку, паставіць чалавецтва на грань вайны. Цяпер, як ніколі, ад народаў патрабуецца асабліва высокая пільнасць.

З'езд лічыць своечасовымі, правільнымі і неабходнымі меры Цэнтральнага Камітэта і Савецкага ўрада па далейшаму ўмацаванню абараназдольнасці нашай Радзімы. Пакуль існуюць імперыялістычныя агрэсары, трэба быць напагатове, трымаць порах сухім, удасканальваць абарону сацыялістычных краін, іх узброеныя сілы.

Справа ўмацавання міру патрабуе неадкладнага вырашэння на аснове прынцыпаў мірнага суіснавання карэнных міжнародных праблем, у першую чаргу: усеагульнага і поўнага раззбраення пры найстражэйшым міжнародным кантролі; канчатковай ліквідацыі каланіяльнага прыгнёту ва ўсіх яго формах і праяўленнях, забеспячэння на справе эфектыўнай дапамогі народам, якія нядаўна заваявалі сваю незалежнасць; ліквідацыі рэшткаў другой сусветнай вайны, мірнага ўрэгулявання з Германіяй; аднаўлення законных правоў Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; істотнага паляпшэння механізму Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; развіцця дзелавых міждзяржаўных адносін, эканамічных і культурных сувязей паміж усімі краінамі.

**Камуністычная партыя Савецкага Саюза зробіць усё неабходнае для таго, каб захаваць і ўмацаваць мір і дружбу паміж народамі ў імя перамогі высокіх ідэалаў сацыяльнага прагрэсу і шчасця народаў.**

## II.

З'езд з задавальненнем адзначае, што за справаздачны перыяд у выніку няўхільнага ажыццяўлення **ўнутранай палітыкі**, распрацаванай XX з'ездам, дасягнуты вялікія поспехі ў развіцці ўсіх галін народнай гаспадаркі. Хутка ішлі ўгару прамысловасць і сельская гаспадарка, яшчэ больш умацавалася эканамічная магутнасць і абараназдольнасць нашай Радзімы. Паўней пачалі задавальняцца матэрыяльныя і духоўныя патрэбнасці савецкіх людзей. Справа стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма пастаўлена на трывалую аснову.

**Важнейшай рысай перыяду пасля XX з'езда з'яўляюцца паскораныя тэмпы камуністычнага будаўніцтва**

За апошнія шэсць гадоў выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся амаль на 80 працэнтаў. Паспяхова выконваецца сямігадовы план. Сярэднегадавы прырост прамысловай прадукцыі замест намечанага на першыя тры гады сямігодкі 8,3 працэнта фактычна складае 10 працэнтаў. Выяўлены і прыведзены ў дзеянне новыя буйныя рэзервы сацыялістычнай эканомікі, што дало магчымасць звыш заданняў першых трох гадоў сямігодкі выпусціць прамысловай прадукцыі прыкладна на 19 мільярдаў рублёў. Праведзена вялікая работа па тэхнічнаму пераўзбраенню ўсіх галін матэрыяльнай вытворчасці. Створаны тысячы найноўшых тыпаў машын, станкоў, апаратаў, прыбораў, сродкі аўтаматызацыі.

**З'езд адзначае, што дзякуючы нястомным клопатам партыі і ўрада, самаадданай працы савецкага народа, пераўзбраенне Савецкай Арміі ракетна-ядзернай тэхнікай поўнасцю завершана.** У руках нашага народа магутная ваенная тэхніка надзейна служыць абароне сацыялістычных заваёў, справе ўмацавання міру ва ўсім свеце.

Пасля XX з'езда ў прамысловасці, будаўніцтве, на транспарце адбыліся сур'ёзныя **якасныя змены.** Карэнным чынам палепшана структура паліўнага балансу; на новую тэхнічную базу пераведзена электраэнергетыка; значна паскорыліся тэмпы развіцця хімічнай прамысловасці і тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх відаў транспарту. Партыяй і ўрадам прыняты меры па развіццю лёгкай і харчовай прамысловасці, павялічан выпуск тавараў народнага ўжытку, што ўжо цяпер робіць дабратворны ўплыў, а ў далейшым яшчэ больш дабратворна адаб'ецца на павышэнні жыццёвага ўзроўню савецкіх людзей.

У выніку аснашчэння будоўляў новай тэхнікай, шырокага ўкаранення зборнага жалезабетону ў небывалых маштабах разгарнулася капітальнае будаўніцтва. За 1956—1961 гады ў народную гаспадарку ўкладзена 156 мільярдаў рублёў, што перавышае аб'ём капітальных укладанняў за ўсе гады Савецкай улады да XX з'езда партыі. Уведзена ў дзеянне каля шасці тысяч новых дзяржаўных прадпрыемстваў і сярод іх — буйнейшыя ў свеце гідраэлектрастанцыі, металургічныя, хімічныя і машынабудаўнічыя заводы, тэкстыльныя камбінаты; шырока выкарыстоўваецца такі эканамічны і эфектыўны шлях нарошчвання вытворчых магутнасцей, як рэканструкцыя і расшырэнне дзеючых прадпрыемстваў.

Паслядоўна ажыццяўляецца намечаны партыяй курс на паскоранае развіццё прадукцыйных сіл **усходніх раёнаў краіны.** На базе багатых воднаэнергетычных рэсурсаў і таннага вугалю будуюцца магутныя электрастанцыі, уведзены ў эксплуатацыю багацейшыя месцанараджэнні жалезных руд і прыроднага газу, паспяхова ствараецца трэцяя металургічная база, развіваюцца каляровая металургія, хімія, машынабудаванне, будаўнічая індустрыя, растуць новыя гарады і прамысловыя цэнтры.

З'езд поўнасцю адабрае ажыццёўленую Цэнтральным Камітэтам і Савецкім урадам **перабудову кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам.** Гэта рэвалюцыйная, жыццёва неабходная мера зламала ведамасныя перагародкі, якія сталі тормазам далейшага развіцця прадукцыйных сіл краіны, павысіла ролю саюзных рэспублік, мясцовых партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў у эканамічным і культурным будаўніцтве, развязала творчую ініцыятыву мас. Усе галіны народнай гаспадаркі ў выніку перабудовы кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам працуюць лепш, больш эфектыўна, паўней выкарыстоўваюць наяўныя вытворчыя рэзервы.

Паспяхова вырашаецца задача — дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва. Савецкі Саюз ужо абагнаў самую развітую капіталістычную краіну — Злучаныя Штаты Амерыкі — не толькі па тэмпах, але і па абсалютнаму штогадоваму прыросту прадукцыі. У цяперашні час у СССР больш, чым у ЗША, здабываецца жалезнай руды, вугалю, выпрацоўваецца коксу, зборнага жалезабетону, магістральных электравозаў і цеплавозаў, піламатэрыялаў, шарсцяных тканін, масла, цукру, рыбы і раду іншых вырабаў і прадуктаў.

**Выкананне сямігадовага плана выведзе эканоміку Савецкага Саюза на такі рубеж, калі спатрэбіцца ўжо нямнога часу, каб перагнаць ЗША і па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва. Гэта будзе сусветна-гістарычнай перамогай сацыялізма над капіталізмам.**

З'езд адзначае вялікую работу, праведзеную Цэнтральным Камітэтам па ўздыму **сельскай гаспадаркі.** У рэзультаце вынікаў вайны, а таксама допушчаных у мінулым памылак і недахопаў кіраўніцтва сельская гаспадарка краіны апынулася ў цяжкім становішчы. Нізкі ўзровень вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў мог затрымаць развіццё савецкай эканомікі, сур'ёзна адбіцца на дабрабыце народа.

Цэнтральны Камітэт, выявіўшы прычыны адставання сельскай гаспадаркі, распрацаваў і ажыццявіў неадкладныя меры, накіраваныя на далейшае развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці. Пры актыўным удзеле ўсяго народа партыя ўмацавала матэрыяльна-тэхнічную базу калгасаў і саўгасаў, правяла рэарганізацыю машынна-трактарных станцый, узняла ролю саўгасаў у камуністычным будаўніцтве, увяла новы парадак планавання сельскагаспадарчай вытворчасці, аднавіла ленінскі прынцып матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў і рабочых саўгасаў у павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў, умацавала калгасы і саўгасы кіруючымі кадрамі і спецыялістамі, перабудавала работу сельскагаспадарчых органаў, павысіла ролю навукі ў сельскай гаспадарцы.

Выдатную ролю ў павелічэнні вытворчасці збожжа і развіцці ўсёй сельскай гаспадаркі адыграла асваенне цалінных і абложных зямель, якія даюць цяпер звыш сарака працэнтаў усіх нарыхтовак збожжа ў краіне. **Асваенне цалінных зямель — вялікі працоўны подзвіг савецкага народа, ён будзе жыць у вяках!**

Меры, прынятыя партыяй па ўздыму сельскай гаспадаркі, ужо далі рэальныя вынікі, а ў далейшым гэтыя вынікі будуць яшчэ больш значныя. За пяць гадоў валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ў параўнанні з папярэднім пяцігоддзем узрасла на 43 працэнты. Калі раней дзяржава закупляла штогод усяго каля двух мільярдаў пудоў збожжа, то за апошнія гады яна закупляе тры мільярды пудоў і больш. Значна ўзраслі закупкі іншых прадуктаў сельскай гаспадаркі. Дасягнуты карэнныя змены ў развіцці жывёлагадоўлі, якая доўгія гады знаходзілася ў запушчаным стане. За апошнія пяць гадоў пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў калгасах і саўгасах павялічылася на 68 працэнтаў, свіней — у два з палавінай раза; намнога выраслі нарыхтоўкі прадуктаў жывёлагадоўлі.

Адзначаючы важнае значэнне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС (1961 г.), які асудзіў бесклапотнасць і самазаспакоенасць, аслабленне ўвагі да сельскай гаспадаркі ў радзе абласцей і рэспублік, у выніку чаго тэмпы росту вытворчасці збожжа, мяса, малака ў 1959—1960 гадах знізіліся і адстаюць ад заданняў сямігодкі, з'езд поўнасцю адабрае выпрацаваныя Цэнтральным Камітэтам канкрэтныя меры па далейшаму павелічэнню вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў. Як паказваюць папярэднія вынікі сёлетняга года, гэтыя меры прынеслі станоўчыя рэзультаты. Калгасы і саўгасы павялічылі вытворчасць збожжа. Сёлета дзяржава закупіць збожжа значна больш, чым летась. Павялічылася таксама вытворчасць бавоўны, цукровых буракоў, сланечніку і іншых культур. Вырасла пагалоўе жывёлы, павялічыліся вытворчасць і закупкі прадуктаў жывёлагадоўлі. Аднак тэмпы росту вытворчасці мяса і малака яшчэ далёка не адпавядаюць таму ўзроўню, які неабходны.

Калгасы і саўгасы на аснове накопленага вопыту павінны зрабіць цяпер новы вялікі крок наперад і паспяхова выканаць заданні сямігодкі. У вырашэнні наспеўшых пытанняў сельскай гаспадаркі асабліва важнае значэнне мае работа па перагляду калгасамі і саўгасамі структуры пасяўных плошчаў, замене менш ураджайных культур больш ураджайнымі, перш за ўсё кукурузай і бабовымі. Неабходна і далей з усёй настойлівасцю выкарыстоўваць рэзервы сельскай гаспадаркі з тым, каб паспяхова вырашыць адну з важнейшых задач камуністычнага будаўніцтва — стварыць багацце сельскагаспадарчых прадуктаў для народа.

Партыйныя арганізацыі, працоўныя Расійскай Федэрацыі, Украіны, Казахстана намецілі ў перспектыве забяспечыць рэзкае павелічэнне вытворчасці збожжа.

— Расійская Федэрацыя паставіла перад сабой мэту давесці вытворчасць збожжа да 12 мільярдаў пудоў і закупкі — да 4—5 мільярдаў пудоў.

— Украінская ССР — давесці вытворчасць да 3,8 мільярда пудоў і закупкі — да 1,5 мільярда пудоў.

— Казахская ССР — давесці вытворчасць да 3,5 мільярда пудоў і закупкі — больш чым да двух мільярдаў пудоў.

З'езд адабрае ініцыятыву партыйных, савецкіх арганізацый і ўсіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі Расійскай Федэрацыі, Украіны і Казахстана і жадае ім паспяхова ўзяць намечаныя рубяжы.

Няўхільна павышаецца **матэрыяльны дабрабыт працоўных.** На аснове росту нацыянальнага даходу СССР рэальныя даходы рабочых і служачых (у разліку на аднаго працуючага) павялічыліся за пяць гадоў на 27 працэнтаў, даходы калгаснікаў — на 33 працэнты. Больш чым у паўтара раза вырас розвічны тавараабарот дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю. Усе рабочыя і служачыя пераведзены на сямігадзінны і шасцігадзінны рабочы дзень. Завяршаецца ўпарадкаванне заработнай платы, павышан яе ўзровень, асабліва для нізкааплачваемых катэгорый рабочых і служачых, ліквідаваны празмернасці ў аплаце працы некаторых катэгорый работнікаў. Палепшана пенсійнае забеспячэнне, сярэднія размеры пенсій па старасці павялічаны больш чым у два разы. З 1960 года пачалася адмена падаткаў з насельніцтва. Ва ўздыме народнага дабрабыту ўсё большую ролю адыгрываюць грамадскія фонды. Выплаты і льготы, атрыманыя насельніцтвам з гэтых фондаў, склалі ў 1960 годзе 24,5 мільярда рублёў супраць 4,2 мільярда ў 1940 годзе, а к канцу сямігодкі павялічацца да 40 мільярдаў рублёў. Паспяхова выканана намечаная на 1956—1960 гады праграма дзяржаўнага жыллёвага будаўніцтва: за пяць гадоў пабудавана жылых дамоў больш, чым за папярэднія пятнаццаць год, новае жыллё атрымалі каля 50 мільёнаў чалавек.

Перыяд паміж XX і XXII з'ездамі характарызуецца выдатнымі дасягненнямі **савецкай навукі і культуры.** Новую бліскучую эпоху ў развіцці навуковых ведаў чалавецтва адкрылі перамогі Савецкага Саюза ў асваенні космасу, бяспрыкладныя палёты першых у гісторыі касманаўтаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова. Значных поспехаў дабіліся савецкія вучоныя ў галіне выкарыстання атамнай энергіі ў мірных мэтах, у кібернетыцы і стварэнні хуткадзеючых вылічальных машын, у хіміі палімераў, у развіцці аўтаматыкі і тэлемеханікі, радыётэхнікі, электронікі, у галіне грамадскіх навук і ў іншых галінах навукі і тэхнікі.

З'езд лічыць правільнымі прынятыя меры па **перабудове народнай адукацыі і ўмацаванню сувязі школы з жыццём,** па арганізацыі школ-інтэрнатаў, школ і груп з падоўжаным днём па развіццю завочнай і вячэрняй сістэмы навучання, па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў для ўсіх галін гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

За апошнія гады створан рад значных твораў **літаратуры і мастацтва,** якія праўдзіва адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць, паказваюць рысы характару новых людзей — будаўнікоў камунізма.

На аснове развіцця прадукцыйных сіл, памнажэння матэрыяльных і духоўных багаццяў савецкага грамадства няўхільна ўдасканальваюцца **сацыялістычныя грамадскія адносіны.** З'езд адабрае курс на далейшае ўмацаванне і збліжэнне агульнанароднай і калгасна-кааператыўнай форм сацыялістычнай уласнасці, на паслядоўнае ажыццяўленне прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці, развіццё сацыялістычнай дэмакратыі, на збліжэнне і ўсебаковае ўзаемнае ўзбагачэнне культуры савецкіх сацыялістычных нацый, умацаванне маральнага і палітычнага адзінства нашага грамадства, на актыўнае фарміраванне камуністычных асноў у працы, быце, свядомасці савецкіх людзей.

Вялікія поспехі, дасягнутыя нашым народам пад кіраўніцтвам партыі, радуюць савецкіх людзей, усяляюць упэўненасць у тым, што ў будучым наша краіна яшчэ больш паспяхова і хутка будзе ісці наперад па шляху да камунізма. Партыя, верная ленінізму, ніколі не дапускае зазнайства і бесклапотнасці, бачыць не толькі поспехі, але і недахопы ў дзейнасці партыйных, савецкіх, гаспадарчых органаў, сканцэнтроўвае намаганні на ажыццяўленні нявырашаных задач. Неабходна накіраваць усе сілы да таго, каб яшчэ хутчэй расла эканоміка, павышаўся дабрабыт народа, мацнела магутнасць Савецкай дзяржавы. Чым больш актыўна будзе падтрымлівацца і шырэй укараняцца ў вытворчасць усё новае, перадавое, чым вастрэй будуць выяўляцца і хутчэй ліквідоўвацца недахопы, тым больш паспяхова будуць вырашацца задачы, якія стаяць перад намі. Справа камуністычнага будаўніцтва — вялікая справа мільёнаў, справа ўсяго народа.

З'езд даручае Цэнтральнаму Камітэту і ў далейшым накіроўваць сілы партыі і народа на паскарэнне тэмпаў камуністычнага будаўніцтва, на яшчэ больш поўнае выкарыстанне велізарных унутраных рэзерваў, якія маюць усе галіны сацыялістычнай народнай гаспадаркі.

Увага партыі і народа павінна быць сканцэнтравана на вырашэнні перш за ўсё наступных важнейшых задач:

— **Забяспечыць выкананне і перавыкананне заданняў сямігадовага плана, што будзе мець рашаючае значэнне для стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, для нашай перамогі ў мірным эканамічным спаборніцтве з капіталізмам.** Трэба і ў далейшым паскоранымі тэмпамі развіваць цяжкую індустрыю, у першую чаргу электраэнергетыку, металургію, хімію, машынабудаванне, паліўную прамысловасць, будаўнічую індустрыю. З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі мабілізаваць працоўных на барацьбу за выкананне скарэкціраваных у бок павышэння заданняў сямігадовага плана. Прызнаць неабходным усямернае расшырэнне выпуску тавараў народнага ўжытку. Сродкі, якія будуць накоплівацца ў выніку перавыканання прамысловасцю планавых заданняў, накіроўваць галоўным чынам у сельскую гаспадарку, у лёгкую і харчовую прамысловасць;

— на аснове далейшага тэхнічнага прагрэсу **дабівацца ўсямернага росту прадукцыйнасці працы ў прамысловасці, будаўніцтве, у сельскай гаспадарцы, на транспарце.** Павышэнне прадукцыйнасці працы — карэннае пытанне палітыкі і практыкі камуністычнага будаўніцтва, абавязковая ўмова ўздыму дабрабыту народа, стварэння багацця матэрыяльных і культурных даброт для працоўных;

— **настойліва паляпшаць арганізатарскую работу па кіраўніцтву народнай гаспадаркай,** весці справу так, каб з найменшымі затратамі атрымліваць найбольшы прырост прадукцыі. Для гэтага неабходна выбіраць найбольш прагрэсіўныя, эканамічна выгадныя напрамкі ў развіцці галін прамысловасці; удасканальваць спецыялізацыю і каапераванне; комплексна механізаваць і аўтаматызаваць вытворчыя працэсы; хутчэй укараняць у вытворчасць найноўшыя дасягненні навукі і тэхнікі, прагрэсіўную тэхналогію, перадавы вопыт; лепш выкарыстоўваць унутраныя рэзервы эканамічных раёнаў, прадпрыемстваў, будоўляў; умацоўваць дзяржаўную дысцыпліну ва ўсіх звеннях гаспадарчага апарату, весці бязлітасную барацьбу з безгаспадарчасцю, марнатраўствам, коснасцю, кансерватызмам. Зніжэнне сабекошту прадукцыі і паляпшэнне яе якасці, беражлівасць і эканомія ва ўсім, павышэнне рэнтабельнасці і рост сацыялістычных накапленняў павінны стаць законам дзейнасці кожнага савецкага прадпрыемства;

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЗАЎТРА — 79 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ПРОСТЫ І ШЧЫРЫ ЧАЛАВЕК

У 20-х гадах Якуб Колас працаваў выкладчыкам роднай мовы ў педтэхнікуме і вёў па ёй практычныя заняткі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Педагагічная праца была да душы паэту. Слуханне лекцый Якуба Коласа было сапраўдным святам для студэнтаў.

Летам 1923 года Канстанцін Міхайлавіч, адмовіўшыся ад адпачынку, па прапанове Наркамата асветы паехаў у Слуцк выкладаць на палітыка-педагагічных курсах методыку і граматыку роднай мовы.

Выехаў Канстанцін Міхайлавіч у Слуцк разам з беларускім літаратарам Язэпам Лявонавічам Дылам, які цяпер жыве ў горадзе Саратаве. Па дарозе яны заначавалі ў Асіповічах у аднаго селяніна. «Тут, — як успамінае Язэп Лявонавіч, — Якуб Колас і прызнаўся, што вязе ў Слуцк паэму «Новая зямля». Я папрасіў Канстанціна Міхайлавіча пачытаць яе, на што ён з ахвотаю згадзіўся. Чытанне зацягнулася далёка за поўнач і калі закончылася, то добрыя людзі ўжо і ноч разабралі. Назаўтра раніцой мы рушылі ў дарогу. Па дарозе я намякнуў Канстанціну Міхайлавічу, што добра было б, каб ён прачытаў паэму слухачам курсаў. Якуб Колас змераў мяне вачыма з ног да галавы, хітравата ўсміхнуўся і заўважыў: «А можа не варта?», а пасля, падумаўшы, дадаў: «Там паглядзім»...

Праца на Слуцкіх настаўніцкіх курсах захапіла Якуба Коласа. Курсы былі добра арганізаваны, слухачы рэгулярна наведвалі заняткі. «З вялікай уважнасцю, — пісаў Якуб Колас у пісьме ад 8 ліпеня сваёй жонцы Марыі Дзмітрыеўне, — слухаюць настаўнікі і пачатковых і сярэдніх школ методыку роднае мовы. «Усё гэта намі забыта, — кажуць яны, — і калі слухаеш методыку, так ясна, так проста напісаную, то ўспамінаеш, што некалі вучыў гэта і спатыкаеш нешта зусім новае і цікавае». Асаблівае ўражанне зрабіла тое месца методыкі, дзе гаворыцца аб значэнні роднае мовы ў школе».

«Трэба аддаць справядлівасць, — зазначае Я. Л. Дыла, — што слухачы курсаў былі неаднолькавымі як па ўзросту і сацыяльнаму паходжанню, так і па сваіх поглядах. Некаторыя з іх адкрыта выступалі супраць беларускасці. І вот аднойчы адзін з такіх слухачоў, даволі ўжо пажылы чалавек, падыходзіць да Якуба Коласа і гаворыць: «Вот вы, Канстанцін Міхайлавіч, усё чытаеце і чытаеце нам беларускую мову, гаворыце, каб мы яе вывучалі і любілі, а на ёй не напісана ніводнага твора, ну, напрыклад, такога, як «Яўгеній Анегін». Якуб Колас уважліва паглядзеў на яго і сказаў: «Пачакайце, паважаны таварыш. Не ўсё адразу. Пройдзе колькі часу і на нашай мове будуць напісаны выдатныя рэчы». Потым задумаўся на некалькі хвілін і дадаў: «Не ўсё адразу».

А назаўтра, 8 ліпеня, а 9 гадзіне на літаратурным вечары (літаратурныя вечары сістэматычна наладжваліся на курсах) Якуб Колас прыступіў да чытання «Новай зямлі». І калі ён пачаў:

Мой родны кут, як ты мне
мілы!..
Забыць цябе не маю сілы! —

слухачы адразу неяк насцярожыліся, а потым у зале наступіла мёртвая цішыня... Чытанне першага раздзела было закончана. Бурныя воплескі парушылі цішыню. Усе крычалі: «Брава! Брава! Яшчэ! Яшчэ!» Канстанцін Міхайлавіч, не спяшаючыся, уважліва абвёўшы вачыма залу, працягваў:

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне...

Аб гэтым вечары Якуб Колас пісаў у пісьме да Марыі Дзмітрыеўны ад 9-га ліпеня: «Учора вечарам чытаў першы раздзел «Новай зямлі». Адзін слухач курсаў, непрыхільнік беларускасці, зазначыў беларусу: «Я не ведаў, што па-беларуску можна так пісаць. Зарэжце мяне, калі я не навучуся беларускай мове». Прачытаў 6 раздзелаў».

Канстанцін Міхайлавіч за той час, што быў у Слуцку, прачытаў слухачам палітыка-педагагічных курсаў усю «Новую зямлю». Ды не толькі на курсах чытаў яе Якуб Колас, але і на гарадскіх вечарах, якія наладжваліся тады ў Слуцку. І ўсюды, дзе б ні чыталася паэма, слухачы з вялікай прыхільнасцю ставіліся да яе і былі вельмі ўдзячны паэту.

Як успамінае Я. Дыла, на курсах быў яшчэ і такі выпадак. У час адной з лекцый па методыцы роднай мовы Якуб Колас атрымаў запіску, у якой адзін са слухачоў курсаў пытаў у яго: «Чаму да гэтага часу няма падручніка па методыцы беларускай мовы?» Канстанцін Міхайлавіч адказаў: «Будзе... Хутка будзе».

Якуб Колас стрымаў сваё слова. Яго «Методыка роднае мовы» выходзіць з друку ў 1926 годзе. У прадмове да яе 1 лістапада 1925 года ён пісаў: «У той час, калі наша беларуская школа пераходзіць на выкладанне ў роднай мове і пробуе стаць на свае ўласныя ногі, паяўленне кожнага падручніка для школы, кожнай кнігі для школьнага ўжытку, — адным словам, кожная новая педагагічная літаратура, як для вучняў, так і для настаўніка, набывае асаблівае значэнне. Кожны настаўнік беларускай школы вельмі востра адчувае недастачу кніг, падручнікаў і наогул школьнай літаратуры. Гэты брак літаратуры стварае надзвычайныя труднасці для настаўніка і для справы беларусізацыі школ, ставіць вялікія перашкоды для развіцця мовы, бо і настаўніку і вучням, асабліва сярэдніх і вышэйшых школ, прыходзіцца карыстацца чужымі крыніцамі, што вельмі шкодзіць развіццю свае ўласнае мовы. Вось чаму пытанне аб педагагічнай літаратуры пры такіх умовах стаіць надзвычайна востра.

Адчуваючы гэтую патрэбу ў кнізе, аўтар і ўзяў на сябе смеласць злажыць падручнік па методыцы роднае мовы для настаўнікаў пачатковых школ і педагагічных тэхнікумаў...»

Асноўныя палажэнні сваёй «Методыкі» Якуб Колас даводзіў яшчэ ўлетку 1923 года да свядомасці слухачоў Слуцкіх палітыка-педагагічных курсаў. У яго нават быў з сабой рукапіс гэтай кнігі. І Канстанцін Міхайлавіч на гэтых курсах яшчэ раз правяраў правільнасць сваіх думак.

У Слуцку ў той час быў створаны і самадзейны хор. Яго ўдзельніца Алена Ульянаўна Шайко ўспамінае, што на адным з канцэртаў прысутнічаў Якуб Колас. Харысты з асаблівым уздымам спявалі беларускія народныя песні. Паэт застаўся вельмі задаволены канцэртам і на памяць сфатаграфаваўся разам з самадзейнымі артыстамі.

Якуб Колас за кароткі час заваяваў аўтарытэт і павагу не толькі сярод выкладчыкаў і слухачоў настаўніцкіх курсаў, але і сярод жыхароў Слуцка, бо ён быў «простым, шчырым чалавекам», як справядліва зазначыла Алена Ульянаўна ў час нашай гутаркі.

**М. БАЗАРЭВІЧ.**

## Семінар самадзейных майстроў

У Мінску закончыў работу трохдзённы семінар самадзейных мастакоў і народных умельцаў, арганізаваны рэспубліканскім Домам народнай творчасці. Галоўная тэма семінара — абмеркаванне і разгляд работ, прадстаўленых майстрамі народнай творчасці на рэспубліканскай выстаўцы выяўленчага і прыкладнога мастацтва, прысвечанай XXII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Удзельнікі семінара праслухалі лекцыю старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР П. Нікіфарава «Сучаснасць у выяўленчым мастацтве», сустрэліся з прафесіянальнымі мастакамі ў іх майстэрнях, наведалі Мастацкі музей БССР, абмяняліся вопытам сваёй работы.

Майстрам народнай творчасці былі ўручаны граматы рэспубліканскага Дома народнай творчасці.

**На здымку:** удзельнікі семінара на рэспубліканскай выстаўцы работ выяўленчага і прыкладнога мастацтваў.

## З кінакамерай па рэспубліцы

**Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў чарговы, дваццаць дзевяты нумар кіначасопіса «Савецкая Беларусь», першы сюжэт якога расказвае аб паспяховым будаўніцтве новага гіганта беларускай прамысловасці — Жабінкаўскага цукровага завода.**

**З цікавасцю будуць прагледжаны кінакадры аб працоўных поспехах калектыву Магілёўскага металургічнага завода.**

**Асобны сюжэт кіначасопіса прысвечан дэпутату Вярхоўнага Савета БССР, брыгадзіру паляводчай брыгады калгаса «Расія», што на Гродзеншчыне, Валянціне Сямёнаўне Вачынскай, дэлегату XXII з'езда КПСС.**

**Далей у кіначасопісе расказваецца аб працаўніках Брэсцкага дэпо, а таксама аб тым, што нядаўна ў Брэсце закончылася Усесаюзная камсамольска-маладзёжная эстафета, якая праводзілася пад дэвізам «Мяжу СССР ахоўвае ўвесь савецкі народ». За час эстафеты яе ўдзельнікі прайшлі звыш 3000 кіламетраў.**

**Кінакадры часопіса расказваюць аб адкрыцці на радзіме народнага паэта БССР Якуба Коласа, у вёсцы Акінчыцы Стаўбцоўскага раёна мемарыяльнай дошкі.**

**У заключэнне кіначасопіса паказаны спаборніцтвы гімнастаў Міжнароднага спартыўнага саюза чыгуначнікаў у Мінску.**

# ДЗЕСЯТАЯ АБЛАСНАЯ

У Гродна адкрыта дзесятая абласная мастацкая выстаўка, прысвечаная XXII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Тут экспанаваны работы мастакоў Гродзеншчыны. Пейзажы І. Пушкова, Д. Старалаўнікава, М. Плужніка, партрэтныя замалёўкі В. Савіцкага і А. Коха, тэматычныя палотны А. Арнаутава, Д. Парахні і работы іншых аўтараў вабяць самабытнасцю выканання, выразнасцю аўтарскіх почыркаў.

Некаторыя з жывапісцаў прабуюць свае сілы ў новых жанрах. Так, напрыклад, мы ведалі М. Плужніка як аўтара пейзажаў. На выстаўцы ён выступіў не толькі песняром прыроды. Дзве карціны, розныя і па зместу і па стылю выканання, паказалі нам мастака ў новым святле. «Піянерка» — так называецца адно з гэтых палотнаў, а другое прысвечана абаронцам Брэсцкай крэпасці.

Амаль для ўсіх карцін, што экспануюцца на выстаўцы, характэрны пошукі новага ў жывапісным вырашэнні выбраных тэм. Некаторым аўтарам у пэўнай ступені гэта ўдаецца (І. Пушкоў, В. Савіцкі, К. Пятроў).

Але нават трапна знойдзеныя жывапісныя сродкі не могуць задаволіць, калі ў творы няма галоўнага — надзённага зместу. Тэма сучаснасці слаба адлюстравана на гродзенскай выстаўцы.

Праўда, тут ёсць партрэты перадавікоў вытворчасці, а таксама добра вырашаная і па задуме і па кампазіцыі карціна К. Пятрова «Новы Гродна». Але гэтых і некаторых іншых работ, прысвечаных нашым дням, усё ж мала.

На выстаўцы выступілі і плакатысты. На жаль, пры правільным палітычным напрамку, іх работы пазбаўлены глыбокай вобразнасці. Яны ў большасці атрымаліся трафарэтныя, паўтараюць шматлікія варыянты плакатаў мінулых гадоў.

**В. БАЛДАЕЎ.**

Гродна.

# Пачуцці любві і павагі

У час Вялікай Айчыннай вайны народны паэт Беларусі Якуб Колас жыў і працаваў у горадзе Ташкенце. Там 3-га лістапада 1942 года было адзначана 60-годдзе з дня яго нараджэння. У Беларускай Акадэміі навук, якая таксама знаходзілася ў Ташкенце, была створана спецыяльная камісія. У падрыхтоўцы да юбілею прынялі ўдзел Інстытут сусветнай літаратуры, Саюз пісьменнікаў Узбекістана, Сярэднеазіяцкі універсітэт, Дом Чырвонай Арміі, Радыёкамітэт, Саюз мастакоў, Узбекская філармонія.

На старонках рэспубліканскіх часопісаў і газет з'явіліся артыкулы, прысвечаныя творчай і грамадскай дзейнасці Якуба Коласа, вершы паэта ў перакладзе на рускую і ўзбекскую мовы.

Узбекскія пісьменнікі ў віншаванні юбіляру пісалі, што яны ганарацца мужнасцю беларускага народа, і падкрэслівалі, што ў барацьбе за сваю незалежнасць яму дапамагае голас Якуба Коласа, голас народнага песняра, які чуе ўвесь свет.

Якуб Колас сваімі вершамі клікаў і натхняў усіх сыноў вялікага савецкага народа на смяротны бой з гітлерызмам, быў нястомным песняром усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага выдавецтва Узбекскай ССР, а таксама газет «Кзыл Узбекістон» і «Фрунзевец», віншуючы юбіляра, адзначалі, што песні Якуба Коласа спяваюць гераічныя беларускія партызаны, увесь савецкі народ. З яго патрыятычнымі вершамі воіны Савецкай Арміі ідуць у бой за свабоду і незалежнасць сваёй краіны. «Перакладзеныя на ўзбекскую мову, творы Якуба Коласа, — пісалі яны, — чытаюць рабочыя Ташкента, бавоўнаводы-калгаснікі Ферганы, навучэнцы Самарканда, рыбакі з Аральскага мора, пастухі з гор Цянь-Шаня...»

З дакладам аб жыцці і творчай дзейнасці народнага паэта Беларусі выступіў Кандрат Крапіва.

Якуба Коласа віталі ад імя ЦК КП(б) Беларусі, СНК і Вярхоўнага Савета БССР, Акадэміі навук БССР, ЦК КП(б) Узбекістана, СНК і Вярхоўнага Савета УзССР, Саюза савецкіх пісьменнікаў, Саюза пісьменнікаў Узбекістана, байцоў і камандзіраў Ташкенцкага гарнізона. Тут жа была зачытана пастанова Ташкенцкага гарсавета аб перайменаванні адной з вуліц горада ў вуліцу імя Якуба Коласа.

У заключэнне са словамі падзякі выступіў Якуб Колас. Ён сказаў:

«Дарагія таварышы!

Ад усяго сэрца прыношу маю глыбокую ўдзячнасць дакладчыку, таварышам, прывітаўшым мяне добрым словам, і ўсім прысутным тут, якія аказалі мне такую вялікую ўвагу...

Што ж казаць у дзень свайго шасцідзесяцігоддзя? Шэсцьдзесят год гэта — вялікі кавалак жыцця, гэта амаль усё жыццё, бо чалавек, які мінаваў шасцідзесяцігадовы рубеж свайго жыцця, як ні хітруй, як хітра ні мудрагельствуй, няўхільна ідзе да свайго захаду. Такі закон прыроды. Вось чаму мне здаецца, што людзі, якія адзначаюць сваё шасцідзесяцігоддзе, адчуваюць нейкі смутак. Сумна і таму, што сваё шасцідзесяцігоддзе даводзіцца адзначаць у абстаноўцы жорсткай вайны, якой не ведае гісторыя чалавецтва, адзначаць далёка, у адрыве ад роднага народа і роднай зямлі, якую паліць, разбурае і рабуе карычневая нямецкая чума. Але мяне суцяшае тое, што наш магутны савецкі народ у сваім шматнацыянальным складзе, зндітаваны несакрушальнай дружбай народаў, поўны рашучасці, адвагі і волі знішчыць уварваўшыяся на нашу зямлю орды нямецкіх забойцаў і іх васалаў і паслугачоў, што Чырвоная Армія, загартаваная ў баях Вялікай Айчыннай вайны, наносіць усё больш цяжкія ўдары гітлераўскім полчышчам. Мяне суцяшае, як і кожнага савецкага грамадзяніна, глыбокая вера ў перамогу над нашым ворагам. Я веру, што вярнуся ў вызваленую, знявечаную ворагам родную Беларусь, каб да канца аддаць усе сілы на яе аднаўленне і росквіт.

У заключэнне я прыношу глыбокую падзяку ўраду Узбекістана, яго непахіснай партыі бальшавікоў і ўсяму працавітаму, мудраму, адважнаму узбекскаму народу. Тут, ва Узбекістане, усе мы, адарваныя ад сваіх родных ачагоў, знайшлі гасцінны братэрскі прытулак і ўвагу.

Няхай жыве несакрушальная дружба народаў!

Няхай жыве Чырвоная Армія і наша перамога над ворагам!»

Вечары і сходы, прысвечаныя юбілею Якуба Коласа, адбыліся тады ў Беларускім тэатры оперы і балета ў Горкім, Першым Беларускім драматычным тэатры ў Томску, Другім Беларускім тэатры ва Уральску.

**М. ЖЫГОЦКІ,**
**супрацоўнік музея Якуба Коласа.**

**Якуб Колас (трэці злева ў другім радзе) і Янка Купала (першы злева ў першым радзе) сярод слухачоў Вышэйшых курсаў беларусазнаўства (Мінск, 1926).**
**З фондаў Літаратурнага музея Якуба Коласа.**

## *Збор твораў Я. Коласа*

Пасля смерці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР даручылі прэзідыуму Акадэміі навук БССР і праўленню Саюза пісьменнікаў Беларусі выдаць поўны Збор твораў Якуба Коласа. На працягу апошніх год калектыў навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і быў заняты падрыхтоўкай гэтых твораў для друку. Выданне ажыццяўляецца ў 12 тамах.

Творы паэта размешчаны ў храналагічным парадку. Тэксты зверaны па ўсіх друкаваных крыніцах і аўтографах. Гэта дало магчымасць выправіць недакладнасці і скажэнні коласаўскіх тэкстаў, што пераходзілі раней з аднаго выдання ў другое.

Супрацоўнікі інстытута правялі значную работу па праверцы і ўдакладненню дат напісання твораў народнага паэта. У раздзеле «Заўвагі і каментарыі» даюцца літаратурна-тэксталагічныя і гістарычныя каментарыі, тлумачацца незразумелыя словы, прыводзяцца варыянты твораў.

Падрыхтоўка Збору твораў паэта ў дванаццаці тамах ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам членаў-карэспандэнтаў АН БССР В. Барысенкі, П. Броўкі і кандыдата філалагічных навук Ю. Пшыркова.

Першы том ужо вышаў у Белдзяржвыдавецтве і з'явіўся на кніжных паліцах. Яго рэдактар Пятрусь Броўка. Тэксты падрыхтавалі да друку і зрабілі каментарыі навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Л. Гусева, Ул. Ларчанка і Д. Бародзіч. У першы том уключаны вершы Якуба Коласа дакастрычніцкага перыяду. Ён складаецца з трох раздзелаў: у першым — вершы, якія змяшчаліся аўтарам у папярэдніх зборах твораў; у другім — творы, якія не ўваходзілі раней у зборы твораў; у трэцім — вершы невядомых гадоў; у чацвёртым, дадатковым раздзеле, — раннія неапублікаваныя вершы паэта, пераважна на рускай мове.

Крыніцай асноўнага тэксту для большасці вершаў з'яўляецца тэкст апошняга прыжыццёвага выдання — першы том Збору твораў у сямі тамах, які выйшаў у 1952 г. Спасылкі на гэтае выданне ў каментарыях не даюцца.

Кніга добра аформлена. У ёй змешчаны рэдкія фотаздымкі Якуба Коласа і яго жонкі Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч, фотакопія газеты «Наша доля», рукапісы некаторых твораў.

У бліжэйшы час на кніжных паліцах магазінаў рэспублікі з'явяцца другі і трэці тамы Збору твораў Якуба Коласа.

# НАВУКОВАМУ СТЫЛЮ — ВОБРАЗНАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

ную пэўным тэрмінам меру. Атрымалася ж нешта іншае.

Няправільнае ўжыванне і спалучэнне слоў, недакладныя фармуліроўкі—усё гэта зніжае стылістычныя вартасці навуковага выкладу, зацямняе, а то і скажае сэнс.

«П. В. Шэйн падае і другі варыянт гэтай народнай песні, якая [песня?—**Б. Л.**] мае больш выразную **сацыяльную канцоўку»** (Я. І. Міхалап. Фальклор у творчасці Францішка Багушэвіча. «Вучоныя запіскі» Гомельскага педінстытута, вып. VII*, стар. 83). «У старажытную пару рускай мовы яны [шыпячыя.—**Б. Л.**], наадварот, былі толькі мяккімі. Інакш гэтыя гукі **называліся** (калі? У старажытную пару?—**Б. Л.**) яшчэ спрадвечна мяккімі, таму што лічыліся мяккімі з дагістарычнай эпохі» (Н. С. Гурло. Да пытання станаўлення беларускай арфаграфічнай сістэмы... «Вучоныя запіскі» Гродзенскага педінстытута. Серыя гуманітарн. н., вып. VI**, стар. 88). «... Побач з намінатыўным, словы навальніца, гром, бура заключаюць і грамадска-палітычны сэнс» (А. А. Корзун. Да словаўжывання ў трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Гродзенск., стар 97).

Аўтар апошняга ўрыўка добра разумее неабходнасць уважлівых адносін да мовы, але вось як падае ён сваё палажэнне:

«**Вылажыць** свае думкі ярка і зразумела для чытача можна толькі тады, калі **поўнасцю валодаеш мовай,** г. зн. ведаеш яе слоўнікавы састаў і граматычны лад і правільна карыстаешся імі» (А. А. Корзун. Там жа., стар 97).

Безумоўна, не месца ў навуковых работах і няпэўным, расплывістым азначэнням:

«Здаралася, што кніжнікі замест звычайнага **У** пісалі літару **В,** перадаваўшую, мабыць, асобнае **кароткае адценне** гуку **У:** врожай»... (Н. С. Гурло. Гродзенск., стар. 86).

Некаторыя лічаць, быццам вобразнасць неўласцівая для навуковага стылю. Але такое ўяўленне памылковае. У апошні час большасць даследчыкаў літаратурнай мовы сыходзіцца на тым, што вобразнасць (зразумела, не ў чыста літаратуразнаўчым разуменні) мае і—галоўнае—павінна мець пашырэнне і ў навуковых працах. Вобразнасць дапаможа не толькі лепш перадаць думку, але і пераканаць чытача. Яшчэ Д. І. Мендзялееў гаварыў: «Навука толькі тады дабратворная, калі мы яе прымаем не толькі розумам, але і сэрцам».

Праўда, навуковы выклад нельга ажыўляць штучна—без уліку логікі фактаў, адпаведнасці мастацкіх сродкаў матэрыялу. Мастацкія сродкі павінны дапамагаць зрабіць думку больш яснай, зразумелай. Гэта не заўсёды ўлічваюць.

«Ён [Якуб Колас] добра разумее, што агульнаўжывальныя словы з'яўляюцца **ядром мовы,** у тым ліку і літаратурнай, і **выткаць** стройны мастацкі **твор без** гэтага **ядра** немагчыма» (А. А. Корзун, Гродзенск., стар. 100). «Адбіраючы словы для выражэння сваіх творчых задум, Я. Колас **зыходзіў з невычарпальных крыніц** жывой народнай мовы» (там жа).

Метафара, параўнанне, ужытыя не да месца, могуць прывесці да самага нечаканага выніку: чытач будзе ўсміхацца ў той час, калі аўтар гаворыць з ім зусім сур'ёзна:

«Да сучаснага свайго цвёрдага становішча **Ж. Ш, Ч** у беларускай мове дайшлі не адразу: былі хістанні, калі ў адным і тым жа акце адначасова сустракаліся спалучэнні шыпячых з адлюстроўваючымі і не адлюстроўваючымі мяккасць галоснымі» (Н. С. Гурло. Гродзенск., стар. 89).

Ёсць, безумоўна, і ўзоры выкарыстання мастацкіх сродкаў. Той, хто ўважліва сочыць за літаратуразнаўствам, можа назваць многа прыкладаў удалай, проста мастацкай формы навуковых работ. У нашым друку, напрыклад, адзначалася высокая мастацкая вартасць прац А. Адамовіча. Выразнасць стылю, выкарыстанне мастацкіх сродкаў характэрны для многіх нашых вучоных. Акадэмік Н. М. Нікольскі пра выступленне аднаго вучонага гаварыў: «Але гэта, вядома, апошні яго ар'ергардны бой, асуджаны таксама на паражэнне, што павядзе за сабой канчатковае згуртаванне ўсіх сіл савецкіх усходазнаўцаў у барацьбе за гістарычную навуку аб старажытным Усходзе» («Матэрыялы юбілейнай сесіі АН БССР». 1950, стар. 81). Адзін з даследчыкаў так заканчваў артыкул аб вывучэнні старажытнага беларускага пісьменства: «Мы, філолагі, узорваем камяністую глебу. Рэдка мы знаходзім у ёй скарбы. Але дзякуючы нашай працы гэтая глеба дае жніво гісторыкам культуры, мовазнаўцам і наогул усім, хто, вывучаючы мінулае народа, хоча базіравацца не на голых домыслах, а на крытычна даследаваным матэрыяле» («Запіскі аддзела гуманітарных навук АН БССР», кн. 9, стар. 292).

Але пераважаюць усё ж «узоры» іншага парадку. Слоўныя ўпрыгожванні, штучная «вобразнасць», імкненне здавацца занадта глыбакадумным—гэта прыводзіць да бязглуздзіцы, часам да камічных эфектаў.

«Нават калі Стася, выгнаная Шыпшынскім, пакідае хутар, Цімох думае толькі аб сабе, што яму цяжка будзе жыць без яе. У дадзенай сітуацыі чулая сэрцам Стася больш ахвярае яму, чым ён плаціць. Такая пасіўнасць асабістага, інтымнага і проста чалавечага пачуцця звязана з тым, што Куляшоў наогул некалькі пазбавіў сваіх герояў грамадскай актыўнасці ў час іх знаходжання на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Толькі расправа Цімоха з правакатарам кампенсуе гэты недахоп у развіцці вобраза. Пагнаўшыся за ўскладнёнай сюжэтнай сітуацыяй, аўтар некалькі парушыў вызначаныя спачатку магчымасці вобраза» (Л. П. Смальянава. Брэсцк., стар. 198).

Гэты ж аўтар поўны жадання ствараць афарызмы:

«Драматызм гучання ўзрастае яшчэ таму, што ў аповесці ў цэнтры пастаўлены жыццёвы лёс трох маладых жанчын: Паліны, Стасі і Марыны, а вобраз жанчыны ў творы заўсёды аказвае дадатковае эмацыянальнае ўздзеянне на чытача» (Там жа, стар. 199).

Некаторыя даследчыкі не прадумваюць фармуліровак, жанглююць «прыгожымі» словамі і спалучэннямі, не клапоцячыся аб сэнсе выказвання:

«Велізарную работу правёў драматург над моваю персанажаў драмы, дабіваючыся сапраўды ювелірнай апрацоўкі фразы, вызваляючы яе **ад лішняй слоўнай нагрузкі,** скарачаючы рэплікі. Гэта выклікалася не простым намерам пазбавіцца лішніх слоў, а жаданнем узмацніць эмацыянальнасць фразы, зрабіць яе лёгкай, простай, энергічнай» (Я. Чарняўская. Брэсцк., стар. 169).

У навуковых работах, асабліва гэта адносіцца да літаратуразнаўчых, важна, каб стыль, манера выкладу адпавядалі зместу. Інакш можна нечакана выклікаць усмешку чытача.

«Усю сілу сатырычнага ўдару накіроўвае тут паэт супраць адсталасці, цемры, ідыятызму вясковага жыцця. Бляднее асоба чорта перад вясковай спрактыкаванай зводніцай. Пасля канкрэтных яе спраў нават чорта апанаваў такі жах, што ён не рашыўся падысці блізка да бабы...» (Я. Міхалап. Гомельск., стар. 87).

Гэты ж аўтар дае яшчэ вельмі яркі прыклад таго, як нельга аналізаваць твор, як нельга перадаваць яго змест:

«У творы Багушэвіча, як і ў народных паданнях, праўдзіва паказана, што кветка папараці (сімвал шчасця) ва ўмовах буржуазна-памешчыцкага ладу не можа быць здабыткам народных мас. Яна ахоўваецца кажанамі, рапухамі, гадзюкамі, ваўкалакамі, ведзьмамі, чарцямі, смокамі, а самае галоўнае ваўкалюдамі, эканомамі, асэсарамі, панамі,ураднікамі і іншымі драпежнікамі народа» (там жа, стар. 88).

Адсутнасць пачуцця мовы, няведанне мовы па сутнасці не даюць магчымасці літаратуразнаўцу паспяхова весці размову пра твор. Я. Міхалап прачытаў урывак з верша Ф. Багушэвіча «У судзе»:

Арыштантам там быў наш
Пятрук Пантурок,
Што у пушчы гдзесь меў
патайны браварок.
А акцызнік Яськоў браў з яго
кубана [хабар]
Дый данёс, дый злавіў, як той
воўк барана.
І акцызнік той быў, прысягаўся
і ён,
Як яму хтось данёс, як сачыў
ён пяць дзён,
Як кацёл там кіпеў, як гдзе
брага была,
Як Пятрук не паспеў уцячы ад
катла...
А брахаў дык брахаў і сябе
ўсё хваліў,
А таго ж не сказаў, як
Пантурку даіў.

Асабліва ўразілі даследчыка два апошнія радкі, і ён прыводзіць іх у сваім артыкуле для пацвярджэння таго, што «Прадстаўнік царскай улады—акцызнік Яськоў паказан у ролі сабакі» (Гомельск., стар. 91).

Гэтая нечаканасць вывадаў робіць асабліва моцнае ўражанне. Вось і Н. Гурло піша: «Абагульняючы ўсё сказанае аб асаблівасцях правапісу ў «Актах...», мы з усёй відавочнасцю пераконваемся ў тым, што актавая мова XIV—XV стст. яшчэ не мела такога правапісу, у якім бы паслядоўна адлюстроўваліся асаблівасці **сучаснай** (?) беларускай арфаграфіі» (Гродзенск., стар. 95). Сапраўды дзіўна: правапіс актаў XIV—XV стст. не адлюстроўваў паслядоўна сучасны правапіс!

Ну, а гэта месца хіба лепш? «Царква абараняла няроўнасць, прыгнечанне і сацыяльны прыгнёт. Таму барацьба сялянскіх мас мела рэлігійную афарбоўку і форму» (Р. Надольскі. Праўда аб сектантах. Мінск, 1960, стар. 7).

Вось яшчэ адно цікавае заключэнне з гэтай работы:

«Асаблівую ўвагу сектанты ўдзяляюць моладзі, таму што ў ліку веруючых у большасці людзі старэйшага ўзросту, часта фізічна слабыя, і таму актыўна ўдзельнічаць у рабоце абшчын яны не могуць. Апрача гэтага, псіхіка **моладзі** больш уражлівая і ўспрыймлівая, таму **яны** часам лягчэй паддаюцца рэлігійнаму ўплыву» (там жа, стар. 25).

Можна было б прыводзіць многа цытат, каб пацвердзіць думку аб тым, што некаторыя навуковыя работнікі не клапоцяцца аб даходлівасці сваіх прац, не надаюць значэння форме навуковага выкладу. Але, мне здаецца, не заўсёды і работнікі выдавецтваў дастаткова патрабавальныя да вучоных. Ствараецца ўражанне, што рэдактары змірыліся з горшымі «ўзорамі» навуковага выкладу, не вераць, што пра навуку можна пісаць вобразна і ярка, што навука і паэзія могуць мець нешта агульнае.

Вось што гаварыў дырэктар Заалагічнага інстытута АН СССР акадэмік Я. Н. Паўлоўскі доктар медыцынскіх і біялагічных навук, спецыяліст па паразіталогіі:

«Чытанне вялікай кнігі прыроды дае глыбокае задавальненне розуму і адкрывае асабліва многа прыгожага, успрыняцце якога залежыць ад вастрыні мастацкага адчування і зоркай назіральнасці вучонага. Паняцце прыгажосці не абмяжоўваецца толькі сузіраннем карцін прыроды і раскрыццём іх сэнсу. Прыгажосць можна адчуваць і адчуваюць таксама ў выніках лабараторных даследаванняў, у стройнасці матэматычных формул, у дыялектыка-матэрыялістычнай логіцы філасофскіх вывадаў, у непарыўнасці адзінства тэорыі і практыкі яе прымянення, асабліва ў канкрэтных прыкладах перадачы навуковых дасягненняў на карысць народу. Паэзія застаецца ў сутнасці навукі, паэзія, я б сказаў, уцяпляе індывідуальны працэс цяжкай навуковай творчасці, якая крок за крокам прыводзіць да вырашэння пастаўленых пытанняў, і вучоны, які здаецца замкнутым у сваёй спецыяльнасці, можа быць сапраўдным паэтам у навуцы» («Поэзия, наука и ученые», М.—Л. 1958, стар. 88—89).

Пры такіх адносінах да навукі, пры такім захапленні працэсам даследавання нельга пісаць шэра, невыразна. Трэба толькі адмовіцца ад няправільных уяўленняў аб навуковым стылі, трэба ўсур'ёз задумацца над тым, як пісаць, каб захапляць, пераконваць, гаварыць папулярна, але не папулярнічаць, даходліва, але не плаваць на паверхні, раскрываць праблемы ва ўсёй іх складанасці, але не зацямняць пры гэтым сэнсу.

Мова для навуковага работніка —гэта сродак пераканання, сродак барацьбы за свае ідэі, за пашырэнне навуковых ведаў. Значыць, вучоны не можа быць абыякавым да мовы, бо нельга быць абыякавым да таго, ад чаго залежыць ступень твайго ўздзеяння на чытача. Слова для вучонага—не менш важна, чым для пісьменніка. Вучоны павінен быць такім жа ўзорам уважлівых адносін да мовы, як і пісьменнік. Гэта асабліва неабходна ў нашай краіне, дзе ўпершыню створаны магчымасці для шырокага пранікнення навукі ў народ.

Барыс **ЛАПАЎ.**

* У далейшым «Вучоныя запіскі» Гомельскага педінстытута абазначаюцца—«Гомельск».

** У далейшым—«Гродзенск».

**Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА, (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00437